ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№7 (136) ліпень 2022 год

CATHOLICNEWS.BY



## Першы ў Беларусі касцёл святога Ігнацыя Лаёлы асвечаны ў Віцебску

Стар. 7



## Арцыбіскуп Станеўскі атрымаў палій Мітрапаліта з рук Папы Францішка

Стар. 8



## Што такое Евангелле ад Юды?

Чытайце на Стар. 14




## 20-годдзе Беларускага Непакалянава

Стар. 9



## Гісторыю дзяўчыны-бунтаркі чытайце на

Стар. 10

## Ксёндз Андрэй Вашчук SDS асуджаны на 15 сутак

Віцебская Курыя паведамляе, што кс. Андрэй Вашчук SDS, пробашч парафіі Святога Духа ў Віцебску, 18 ліпеня 2022г. быў асуджаны судом на 15 сутак паводле артыкула 23.34. Суд адбыўся ў закрытым рэжыме.

Заахвочваем памятаць аб святару ў малітве, каб Бог даў яму сілы вытрымаць гэтае выпрабаванне.



# Папа Францішак не думае пра адрачэнне і плануе паехаць у Маскву і Кіеў

**Святы Айцец даў інтэрв'ю агенцтву Reuters, у якім абверг чуткі адносна стану свайго здароўя і намеру адрачыся ад служэння на пасадзе Біскупа Рыма, а таксама пацвердзіў намер здзейсніць візіт у Расію і ва Украіну.**

Гаворачы пра сітуацыю ва Украіне, Папа распавёў, што былі кантакты паміж кардыналам Дзяржсакратаром П'етра Паралінам і міністрам замежных спраў Расіі Сяргеем Лаўровым наконт магчымай паездкі ў Маскву, але першыя сігналы не былі станоўчымі. Пра магчымасць такога падарожжа ўпершыню гаварылася некалькі месяцаў таму, але, як патлумачыў Пантыфік, Масква адказала, што гэта неадпаведны момант. Францішак, аднак, даў зразумець, што цяпер, магчыма, нешта змянілася.

"Я хацеў бы паехаць ва Украіну, а спачатку хацеў паехаць у Маскву. Мы абмяняліся пасланнямі на гэты конт, бо я думаў, што расійскі прэзідэнт адкрые мне невялікае акенца, каб я мог паслужыць справе міру... І цяпер, магчыма, пасля майго вяртання з Канады, я змагу паехаць ва Украіну", – сказаў Святы Айцец, дадаючы, што ў першую чаргу варта паехаць у Расію, каб паспрабаваць нейкім чынам дапамагчы вырашыць сітуацыю. У той жа час ён падкрэсліў, што "хацеў бы паехаць у абедзве сталіцы".

Пантыфік таксама абверг чуткі пра намер пакінуць служэнне на Пасадзе святога Пятра. Яны шырока распаўсюджваюцца на працягу апошніх тыдняў у сувязі з прызначэннем на канец жніўня кансісторыя, а таксама хуткім візітам Францішка ў Аквілу – італьянскі горад, у якім пахаваны Цэлесцын V – Папа, што адмовіўся ад служэння Біскупа Рыма ў 1294 годзе. Святы Айцец запэўніў, што гэтыя факты – супадзенне. "Мне ніколі такое не прыходзіла ў галаву. На дадзены момант – не!", – падкрэсліў ён.


Папа падчас інтэрв'ю агенцтву Reuters

Папа Францішак патлумачыў, што магчымасць сысці з пасады можа разглядацца, асабліва пасля рашэння Бэнэдыкта XVI у 2013 годзе, у выпадку, калі па стане здароўя яму будзе немагчыма працягваць яго служэнне. Але на пытанне, калі гэта можа адбыцца, ён адказаў: "Мы не ведаем. Гэта скажа Бог".

Каментуючы боль у калене, Папа прызнаўся, што рашэнне адкласці падарожжа ў Афрыку ў сувязі з патрэбай у тэрапіі і адпачынку, было для яго вельмі балючым, у першую чаргу таму, што ён хацеў паспрыяць міру ў Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга і Паўднёвым Судане.

Пантыфік распавёў падрабязнасці пра стан свайго калена, адзначыўшы, што атрымаў "невялікую расколіну", калі зрабіў неасцярожны крок, маючы запаленую звязку. "Я ў парадку, паціху папраўляюся", – дадаў ён, патлумачыўшы, што расколіна зрастаецца дзякуючы лазернай і магнітнай тэрапіі.

Святы Айцец таксама абверг чуткі пра тое, што год таму, калі ён перанёс аперацыю па выдаленні часткі тоўстай кішкі праз дывертыкуліт, звычайнага захворвання пажылых людзей, у яго дыягнаставалі рак. "Аперацыя прайшла з вялікім поспехам", – запэўніў ён, прызнаючыся, аднак, што не хоча рабіць аперацыю на калене, бо агульны наркоз пасля мінулагодняй аперацыі меў негатыўныя пабочныя эфекты.




## У Ватыкане прадстаўлены лагатып Юбілею 2025 года

**Чатыры рознакаляровыя фігуры – сімвал народаў з чатырох бакоў свету, якія ідуць сярод хваль і трымаюцца за крыж-якар. Гэта лагатып Юбілею 2025 года, што пройдзе пад дэвізам «Пілігрымы надзеі».**

Аўтарам лагатыпа, абранага на міжнародным конкурсе, з'яўляецца 50-гадовы італьянскі графік Джакама Травізані. «Шукаючы спосаб мастацкага адлюстравання надзеі – галоўнай тэмы юбілейных святкаванняў, адразу падумалася пра сімвал крыжа», – прызнаўся ён.

"Я ўяўляў Папу, сучаснага Пятра, які вядзе Божы народ да агульнай мэты, абдымаючы крыж, каторы становіцца якарам, моцным арыенцірам для чалавецтва. І мы, людзі, хапаемся адно за аднаго і яго, і такім чынам трымаемся за гэты якар, сімвалічна згадваючы пілігрымаў усіх часоў", – патлумачыў аўтар.

Ён дадаў, што рознакаляровыя фігуры сімвалізуюць не толькі пілігрымаў з усяго свету, але і каштоўнасці і асаблівасці, якія ствараюць надзею: "чырвоны – гэта любоў, дзеянне і абмен; жоўты, аранжавы – гэта колеры чалавечага цяпла; зялёны выклікае спакой і раўнавагу; сіні – колер бяспекі і абароны".

"Лагатып дэманструе, што шлях пілігрыма з'яўляецца не індывідуальнай, а супольнай справай, якая адзначаецца ростам дынамізму і ўсё большым і большым імкненнем да Крыжа. Крыж – не статычны, а дынамічны, ён схіляецца да чалавецтва, нібы хоча сустрэцца з ім, не пакінуць яго, дае ўпэўненасць прысутнасці і ўпэўненасць надзеі", – гаворыцца ў афіцыйным апісанні.

# «Трэба пакласці канец вар'яцкай вайне ва Украіне»

**Падчас сустрэчы з вернікамі на малітве Анёл Панскі, якая 10 ліпеня адбылася ў Ватыкане, Папа Францішак скіраваў заклік адносна складанай сітуацыі ў Шры-Ланцы, Лівіі і ва Украіне.**

"Зноў выказваю маю блізкасць украінскаму народу, які штодзённа пакутуе ад жорсткіх абстрэлаў: за іх расплачваюцца звычайныя людзі. Малюся за ўсе сем'і, асабліва за пацярпелых, параненых і хворых, малюся за пажылых людзей і дзяцей. Няхай Пан укажа шлях, каб пакласці канец гэтай вар'яцкай вайне!", – пажадаў Пантыфік.

Папа выказаў таксама салідарнасць з жыхарамі Шры-Ланкі, якія працягваюць адчуваць наступствы палітычнай і эканамічнай нестабільнасці.


Ілюстрацыйнае фота (AFP or licensors)

Ён далучыўся да закліку мясцовых біскупаў да міру, а таксама заахвоціў людзей, якія маюць уладу, не ігнараваць крык бедных і людскія патрэбы.

Святы Айцец звярнуў увагу на сітуацыю ў Лівіі, асабліва на цяжкасці маладых людзей і ўсіх, хто пакутуе ад сур'ёзных грамадскіх і эканамічных праблем гэтай краіны. "Заклікаю ўсіх да абноўленага пошуку пераканаўчых рашэнняў з дапамогай міжнароднай супольнасці, праз канструктыўны дыялог і нацыянальнае паяднанне", – сказаў Папа.

Спасылаючыся на Нядзелю мора, якая ў другую нядзелю ліпеня адзначаецца многімі хрысціянскімі супольнасцямі, Святы Айцец выказаў блізкасць маракам, а таксама капеланам і валанцёрам душпастырскай службы Stella Maris. "Даручаю Багародзіцы маракоў, якія былі заблакаваныя ў зонах ваенных канфліктаў, каб яны маглі вярнуцца дамоў", – падкрэсліў Папа Францішак.

## "Малюся з думкамі пра Касцёл і многаму вучуся ў людзей"

**"Я застаюся нявольнікам ранішняй малітвы, бо калі не пачынаеш дзень з малітвы, тады з самага пачатку дня "трапляеш у мясарубку", – прызнаўся Святы Айцец.**

Папа распавёў падрабязнасці пра сваё штодзённае жыццё ў інтэрв'ю аргенцінскаму святару ксяндзу Гільерма Марка – свайму былому прэс-сакратару ў Буэнас-Айрэскай архідыяцэзіі. Гаворачы пра малітву, ён падкрэсліў, што моліцца так, як павінен маліцца біскуп – гэта значыць, думаючы пра статак, давераны яму. Папа прызнаўся таксама, што многаму вучыцца ад людзей.

"Маё сэрца – гэта сховішча, яно напоўненае дарамі, якія я захоўваю. Я ўвесь час павінен рабіць больш шырокія паліцы. Я крыху калекцыянер, у добрым сэнсе гэтага слова, не хачу страціць нічога з таго дабра, якое атрымліваю ад людзей", – сказаў Папа Францішак.

Папа заўважыў, што ў Ватыкане спазнаў, наколькі "мы не ўмеем кіраваць крызісамі", але "менавіта крызісы дапамагаюць нам расці". Важна, каб крызіс не перарастаў у канфлікт,– нагадаў Пантыфік, ставячы ў прыклад заснавальнікаў Еўрасаюза, якія на руінах Другой сусветнай вайны змаглі стварыць еднасць паміж краінамі. Адзінства большае за канфлікт, а канфлікт прымяншае нас, – заўважыў Святы Айцец.

Вяртаючыся ва ўспамінах у Аргенціну, Папа Францішак прызнаўся, што больш за ўсё сумуе па магчымасці свабодна хадзіць па вуліцах горада ці ездзіць аўтобусам, як рабіў гэта ў Буэнас-Айрэсе. Папа распавёў, што двойчы спрабаваў выйсці на шпацыр у Рыме: адзін раз у оптыку, іншы – у музычную краму, але ў абодвух выпадках яго "лавілі". На пытанне пра тое, як ён пераносіць уласную старасць, Пантыфік адказаў: "Я смяюся з сябе і іду далей".

*Па матэрыялах старонкі беларускай рэдакцыі Vatican News*

# Біскуп Эдвард Роп і беларускія казанні ў касцёлах Дзісненскага павета

**У наш час беларуская мова ў касцёле з'яўляецца звычайнай справай. Але так было не заўсёды. У гэтым артыкуле мы раскажам пра тое, як сто пяць гадоў таму назад каталікі ў Дзісненскім павеце ўпершыню пачулі ў святынях казанні на сваёй роднай мове.**

■ **Кастусь Шыталь**, *краязнаўца*

Калі ў 1914 годзе Расійская Імперыя ўступіла ў Першую сусветную вайну, ніхто не чакаў, што яна зацягнецца так надоўга. Ваенныя няўдачы і цяжкасці стамілі насельніцтва, і ў 1917 годзе ў Петраградзе выбухнула Лютаўская рэвалюцыя. Імператар Мікалай II адрокся ад трону, улада перайшла да так званага "Часовага ўрада". Нацыянальныя і рэлігійныя супольнасці вялікай імперыі сталі ўладкоўваць сваё жыццё ў новых умовах.

Віленскім біскупам у 1903 г. стаў Эдвард Роп. Ён быў вельмі адукаваным чалавекам і цудоўна разумеў складаную нацыянальную спецыфіку рэгіёна, дзе побач жылі розныя народы – палякі, літоўцы, беларусы, рускія, – і кожны з іх меў права на справядлівае стаўленне. У 1907 годзе царскія ўлады адхілілі біскупа ад пасады і адправілі ў ссылку ў маёнтак Нішча (цяпер у Латвіі). Апостальская Сталіца не прызнала гэтага адхілення, і ён заставаўся легальным віленскім біскупам. У 1917 годзе новая ўлада вызваліла яго.

Атрымаўшы свабоду, біскуп Эдвард Роп не мог паехаць у Вільню, якая была пад нямецкай акупацыяй. Ён адразу накіраваўся з візітацыяй у тыя парафіі Віленскай дыяцэзіі, якія былі на расійскім баку фронту. Вечарам 20 ліпеня 1917 года біскуп прыбыў у Дзісну. Сярод святароў, каторыя меліся яго сустрэць, было некалькі свядомых беларусаў, якія былі перакананыя ў тым, што прыйшоў час прапаведаваць Божае слова для беларусаў па-беларуску. Дагэтуль, пры Расійскай Імперыі, духавенства асцерагалася ўжываць беларускую мову, баючыся, каб гэта не стала для царскіх уладаў падставай для русіфікацыі і перакладу вернікаў у праваслаўе. У касцёлах маліліся па-польску, а Імша, як і ва ўсім каталіцкім свеце да 1960-х гадоў, служылася на лацінскай мове.



**Касцёл у Дзісне, каля 1910 года. Фота кс. Яна Вэбэра. На камянічцы можна разгледзець шыльду, якая сведчыць, што ў ёй была парафіяльная бібліятэка. Сярод іншага, у гэтай бібліятэцы чытачам былі даступныя беларускія кнігі і газеты.**

Першым па-беларуску звярнуўся да вернікаў, што сабраліся ў Дзісне сустрэць біскупа, ксёндз Міхал Пятроўскі, які быў родам з Празарокаў і да I Сусветнай вайны належаў да беларускага гуртка ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Назаўтра, 21 ліпеня, прысутныя ксяндзы-беларусы праз дэкана Вінцэнта Ташкунаса звярнуліся да біскупа з пытаннем, ці можна прамовіць беларускае казанне падчас галоўнай Імшы. "Не толькі можна, але і трэба", – адказаў біскуп. Прамовіць беларускае казанне даручылі маладому і здольнаму ксяндзу Адаму Станкевічу, будучаму выбітнаму дзеячу беларускага нацыянальнага руху.

*"Узышоўшы на амбону, я – памятаю – пачаў ад слоў псальміста Божага Давіда: "Ня ўмру, але жыць буду і разглашаць буду хвалу Божую" (Пс. 117),* – успамінаў кс. Станкевіч. – *І астаткамі сіл панującых над сабой, тасаваў я гэтыя словы і да свабоды, якая сапраўды была колькі месяцаў па рэвалюцыі, і да душы чалавека, які моў гэны Давід-пакутнік, паўстае з грэху, адраджаецца, знаходзе Бога, і да беларускага народу, які з Волі Бога, пры пасрэдстве свайго біскупа-апостала, урачыста атрымаў права для мовы сваей у святыні і стаўся поўнапраўным грамадзянінам Валадарства Хрыстовага. Пачуўшы словы мовы роднай, так пагарджанай дагэтуль, твар слухачоў ажывіўся, заяснеў. Запанавала святая цішыня. Кожнае слова слухачы, здаецца, жыўцом глыталі. Узрушанне мае сардэчнае хутка ўдзялілася ўсёй вялізарнай грамадзе слухаючых, і нямую ціш у касцёле замяніў нічым не ўстрыманы плач галосны",* – пісаў святар.

Візітацыя працягвалася. У кожнай парафіі, куды прыязджаў біскуп, былі казанні і на польскай, і на беларускай мовах. Кс. Міхал Пятроўскі прапаведаваў па-беларуску ў Друі, Іказні, Германавічах, Шаркаўшчыне. У Ваўкалаце казанне пра бежмаванне меў кс. Эйсмант. У Будславе, Касцяневічах, Крывічах і Радашковічах – кс. Вінцэнт Гадлеўскі, будучы выбітны дзеяч беларускага нацыянальнага руху. У Красным, Маладзечне і Мосары – кс. Міхал Шалкевіч, у Будславе і Вілейцы – кс. Андрэй Цікота. У Друі і Барадзенічах – кс. Адам Станкевіч.

Вернікі, сярод якіх было



**Біскуп Эдвард Роп.**
*Фота пачатку XX стагоддзя.*

шмат праваслаўных, што дзеля цікавасці прыходзілі ў касцёл, прынялі беларускія казанні пазітыўна. Толькі ў Радашковічах некаторыя польскія шавіністы паспрабавалі зладзіць дэманстрацыю супраць беларускага слова, выходзячы ў час казання з касцёла. Візітацыя і беларускія казанні зрабілі вялікае ўражанне на народ.

*"Мы ніколі ні забудзім лета 1917 году, калі Віленскі Біскуп Ропп абʼезджаў Дзісненшчыну. Тады і старыя, і малыя ішлі ад нас у тыя парахвіі, гдзе быў пастыр, каб паглядзець, як людцы спатыкалі і прымалі свайго пастыра – мучаніка, каторы пасьля дзесяцігадовай няволі, калі царская сіла і яго прыхвостнікаў скончылася, вярнуўся да сваіх верных авечак. Але ішчэ што іншае ўрэзалася нам у памяць у гэтым часе. Гэтаж мы, тады як быў Біскуп Роп, першы раз пачулі ксяндзоў, прамаўляючых па касьцёлах да людзей у нашай беларускай мове. Гэтакаго здарэньня мы мусіць і да сьмерці ні забудзімся",* – пісаў у верасні 1919 года карэспандэнт віленскай газеты "Krynica".

Скончыўшы візітацыю, біскуп Эдвард Роп накіраваў ліст-цыркуляр да духавенства, у якім падкрэсліў нізкі стан рэлігійнай свядомасці ў народа і прадпісаў увесці разам з польскімі казанні і на беларускай мове. Біскуп загадваў, дзе магчыма, прамаўляць казанні па-беларуску штонядзелі, а дзе святар не валодае беларускай мовай, – падчас фэстаў, на якіх збіраецца духавенства з ваколіцы. Ён



**Ксёндз Адам Станкевіч, які ў міжваенны перыяд быў адным з правадыроў беларускага нацыянальнага руху.**
*Фота 1922 года.*

зазначаў, што гэтае правіла датычыць парафій у вёсках і мястэчках, бо ў гарадах з іх складанай нацыянальнай і палітычнай сітуацыяй беларуская мова магла выклікаць непаразуменні.

Цыркуляр біскупа Ропа стаў юрыдычнай падставай для ўжывання беларускай мовы ў касцёлах на Дзісненшчыне. Адразу некалькі святароў узяліся прапаведаваць па-беларуску. Так кс. Адам Станкевіч у 1918 годзе прамаўляў беларускія казанні падчас урачыстасцяў у Барадзенічах, Замошшы, Далёкіх, Ёдах, Друі, Шаркаўшчыне, Германавічах, Мёрах і Ікзні. У Шаркаўшчыне ўжываў беларускую мову новапрызначаны пробашч кс. Міхал Пятроўскі. У Мосары – кс. Міхал Шалкевіч, у Барадзенічах – кс. Віктар Шутовіч.

Адначасова паводле загаду біскупа Эдварда Ропа ў парафіях – у Дзісне, Друі, Іказні, Германавічах, Барадзенічах, Шаркаўшчыне – закладаліся гурткі хрысціянскай дэмакратыі. Гэта была форма арганізацыі вернікаў, якія займаліся грамадскай, асветніцкай і дабрачыннай дзейнасцю ў адпаведнасці з сацыяльным вучэннем Касцёла, выкладзеным у энцыкліцы Папы Льва XIII "Rerum Novarum". Кіраўніком гэтай дзейнасці быў вышэйзгаданы кс. Міхал Пятроўскі – пробашч у Шаркаўшчыне, а фармальным старшынёй Саюза хрысціянскіх дэмакратаў Дзісненскага павета з'яўляўся Вацлаў Бароўскі, уладальнік маёнтка Радзюкі.

Восенню 1917 года біскуп Эдвард Роп мусіў развітацца з пасадай Віленскага біскупа, бо Апостальская Сталіца прызначыла яго арцыбіскупам Магілёўскім. Архідыяцэзія толькі называлася Магілёўскай, але яе цэнтр быў у Петраградзе, і яна ахоплівала большую частку Расіі.

Тым часам 7 лістапада 1917 года ў Расіі адбыўся пераварот, вядомы як Кастрычніцкая рэвалюцыя, у выніку чаго ўладу захапілі бальшавікі. У 1919 годзе яны арыштавалі арцыбіскупа Ропа, але праз некаторы час вызвалілі яго і дазволілі выехаць у Польшчу. Арцыбіскуп Роп памёр у Познані 25 ліпеня 1939 года. У 1983 годзе яго парэшткі былі перапахаваныя ў сутарэннях архікатэдральнага касцёла ў Беластоку.

Новым Віленскім біскупам прызначылі ў 1918 годзе Юрыя Матулевіча. У лютым таго ж года немцы сталі наступаць на ўсход, і тэрыторыя Дзісненскага павета на дзевяць месяцаў апынулася пад іх уладай. Лінія фронту больш не аддзяляла каталікоў Дзісненшчыны ад біскупскай сталіцы. Біскуп Юры Матулевіч, якога ў 1987 годзе Касцёл абвясціў блаславёным, са спагадай ставіўся да беларусаў. Ён прызначаў на парафіі ў Дзісненскім павеце святароў-беларусаў: кс. Андрэя Цікоту – у Друю, кс. Антонія Зянкевіча – у Друю, а потым у Глыбокае, кс. Ільдэфонса Бобіча – у Ідолту, потым у Германавічы, кс. Зянона Якуця – у Шаркаўшчыну (памёр у студзені 1924 года), кс. Францішка Рамэйку – у Задарожжа, кс. Язэпа Германовіча – у Лужкі (у 1924 уступіў у ордэн марыянаў у Друі), кс. Яна Жука – у Новы Пагост. Некаторыя з гэтых святароў прамаўлялі па-беларуску штонядзелі, іншыя – падчас вялікіх урачыстасцяў. Дзякуючы гэтаму беларускія казанні і ўжыванне беларускай мовы ў катэхізацыі не былі рэдкасцю.

Паводле Рыжскай мірнай дамовы ад 18 сакавіка 1921 года Дзісненскі павет стаў часткай Польскай Рэспублікі. Палякі, якія складалі значную частку эліты гэтага рэгіёна, непрыхільна ставіліся да беларускай мовы ў касцёле, бо чакалі, што касцёл будзе ўмацоўваць тут польскую культуру. Прызначаны ў 1927 годзе Віленскім арцыбіскупам Рамуальд Ялбжыкоўскі таксама не разумеў патрэбаў беларусаў. Гэтыя і іншыя прычыны прывялі да таго, што да канца 20-х гадоў XX стагоддзя ўжыванне беларускай мовы ў касцёлах нашага рэгіёна спынілася. Нанова беларуская мова стала ўжывацца ў каталіцкім жыцці толькі ў 90-я гады XX стагоддзя, калі Беларусь атрымала незалежнасць.



**Біскуп Эдвард Роп і прадстаўнікі мясцовай арыстакратыі на ганку маёнтка Крыкалы каля Дунілавіч. Побач з біскупам стаіць Марыя Абрамовіч, апошняя ўладальніца маёнтка.**

# Што кажуць школьныя падручнікі пра Царкву

**На вокладках школьных падручнікаў па гісторыі – як сусветнай, так і Беларусі – знаходзім шмат выяў з хрысціянскім сэнсам. Так, на вокладцы падручніка па гісторыі Беларусі для 6 класа змешчана выява крыжа Ефрасінні Полацкай і Каложскай царквы ў Гродне. Гісторыя Беларусі для 8 кл. змяшчае від на верхні горад у Мінску з выявай паезуіцкага касцёла (катэдры), сусветная гісторыя для 7 кл. – выяву Сіксцінскай Мадонны і г.д. Ці вынікае з гэтага, што інфармацыі пра канфесійны складнік у іх будзе шмат?**

■ **Раіса Зянюк**, *кандыдат гістарычных навук*

У мінулым выпуску мы паспрабавалі вызначыць, які вобраз святара ствараюць школьныя падручнікі гісторыі. У сённяшнім нумары прапануем рэфлексіі над пытаннем, што кажуць школьныя падручнікі пра царкву (прадстаўленую рымска-каталіцкай, грэка-каталіцкай, праваслаўнай канфесіямі, а таксама евангельскімі (пратэстанцкімі) плынямі і дэнамінацыямі). Як і ў мінулы раз, для аналізу выкарыстаем падручнікі па прадметах “Сусветная гісторыя” і “Гісторыя Беларусі”, змешчаныя на сайце uchebniki.by.

Перадусім адзначым, што школьныя падручнікі не кажуць пра тэалагічны сэнс значэння “царква/касцёл”. І гэта натуральна. Таму лагічна меркаваць, што ў падручніках царква будзе разглядацца як рэлігійны інстытут, будзе вызначацца яе роля і месца ў гісторыі і грамадстве. Паспрабуем прааналізаваць, ці гэта сапраўды так, і ў якім ключы інфармацыя пра царкву даносіцца да вучняў.

Інфармацыі пра царкву ў падручніках сапраўды дастаткова шмат. У падручніку 5 класа па сусветнай гісторыі тэрмін “царква” раскрываецца абсалютна карэктна. Канстатуецца, што ён мае некалькі значэнняў: хрысціянскі храм, месца рэлігійных сходаў для правядзення хрысціянскага набажэнства, арганізацыя паслядоўнікаў хрысціянскай рэлігіі. “У канцы IV стагоддзя канчаткова склалася царкоўная арганізацыя. Царква ўключала вышэйшае духавенства (епіскапы), ніжэйшае духавенства (свяшчэннікі), манаства і простых хрысціян. Хрысціянскія храмы сталі называцца царквою. Адсюль два асноўныя сэнсы гэтага слова: царква – сукупнасць усіх веруючых у Хрыста і царква – храм, месца для сходу асобнай хрысціянскай абшчыны. Епіскапы вызначылі, якія кнігі, напісаныя аб зямным жыцці Ісуса, лічыць свяшчэннымі. Гэтыя кнігі – Евангеллі – былі сабраны і склалі Новы Запавет. Такім чынам, хрысціянская царква атрымала падтрымку ўладаў, стала апорай дзяржавы. Аднаасобная ўлада імператара мела патрэбу ў адзінай рэлігіі з верай у адзінага Бога”. Пры тым, што прапануецца некалькі значэнняў тэрміна, далей у падручніках “царква” разумеецца выключна як структура і іерархія (а таксама для выкарыстання назвы культавага будынка).

У падручніку па гісторыі Беларусі для 6 класа адзін з параграфаў прысвечаны тэме “Прыняцце і распаўсюджанне хрысціянства”. Тут і далей асноўная ўвага надаецца палітычнаму значэнню прыняцця новай рэлігіі, якая “замацоўвала аўтарытэт дзяржаўнай улады. Яна давала разуменне таго, што ўлада дадзена ад Бога і да яе трэба ставіцца з павагай. Той, хто ёю валодае, нясе большую адказнасць перад Усявышнім”. Што датычыць царквы як арганізацыі і яе структуры, то адзначана наступнае: “Прыняцце хрысціянства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі ўсходніх славян запатрабавала стварэння царкоўнай арганізацыі. Была ўтворана мітраполія з цэнтрам у Кіеве. Яна з’ўлялася часткай Грэчаскай царквы. На чале мітраполіі стаяў мітрапаліт. Ён прызначаўся канстанцінопальскім патрыярхам. Мітраполія падзялялася на епархіі, якімі кіравалі епіскапы. Да пачатку XIII ст. на Русі было створана 16 епархій, у тым ліку Полацкая і Тураўская. У Полацку епархія ўзнікла каля 992 г. Імёны першых полацкіх епіскапаў засталіся невядомымі. Толькі ў пачатку XII ст. узгадваецца полацкі епіскап Міна. Епархія ў Тураўскім княстве была заснавана ў 1005 г. Першым яе епіскапам называецца Фама”.

Больш пра структуру царквы згадваецца ў курсе сусветнай гісторыі для 6 класа, дзе адзначана: “Царква – гэта згуртаванне веруючых у Хрыста са сваёй іерархіяй духавенства, абраднасцю і правіламі служэння Богу. Усе свяшчэннаслужыцелі царквы складалі асобы слой грамадства – духавенства. Вышэйшымі царкоўнымі кіраўнікамі сталі: на ўсходзе – патрыярхі Канстанцінопаля, Александрыі, Антыохіі, Іерусаліма, на захадзе – папа рымскі. Наступнымі па водле старшынства былі мітрапаліты, епіскапы. Некаторыя шчырыя вернікі адыходзілі ад паўсядзённых жыццёвых клопатаў і жылі сумесна, абшчынамі – у манастырах. Там яны маліліся, разважалі аб вечным жыцці. Іх называлі манахамі. Манахі розных манастыроў жылі паводле сваіх правіл. На захадзе Еўропы яны ўтваралі аб’яднанні –ордэны. Хрысціянскія прапаведнікі – місіянеры – самааддана прапаведавалі сваю веру сярод язычнікаў. Дзякуючы гэтаму многія варварскія народы прынялі хрысціянства. Хрысціянства вучыла людзей з дабром і любоўю адносіцца да іншага чалавека. Ісус Хрыстос сказаў: «Ва ўсім, як хочаце, каб з вамі абыходзіліся людзі, так і вы абыходзьцеся з імі».

Прыняцце новай рэлігіі і ўмацаванне адной з хрысціянскіх цэркваў у дзяржаве падаецца як палітычны выбар: “Правадыры і правіцелі варвараў разумелі выгаду прыняцця новай веры. З дапамогай падтрымкі хрысціянскай царквы яны ўмацоўвалі сваю ўладу. Адзіная вера дапамагала ліквідаваць адрозненні паміж плямёнамі, аб’ядноўваць насельніцтва ў адзін народ. Акрамя таго, свяшчэннікі былі адукаванымі людзьмі, маглі дапамагчы правільна напісаць дакументы або законы. Бо большасць людзей, і нават каралі, не ўмела чытаць і пісаць. На працягу Ранняга сярэдневякоўя хрысціянства прыняла большасць народаў Еўропы”.



▲ Праваслаўныя манахі



▲ Каталіцкі манах-дамініканец



Такім чынам, да сярэдзіны XVI ст. на беларускіх землях склалася саслоўная структура, уласцівая феадальнаму грамадству. У цэлым яна нагадвала сацыяльны падзел у іншых краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.



1. Складзіце схему «Саслоўі беларускага грамадства першай паловы XVI ст.». Якія з іх належалі да прывілеяваных, а якія — да непрывілеяваных?
2. Чаму шляхта была зацікаўлена ў паскарэнні запрыгоньвання сялянства?
3. Чым мяшчане адрозніваліся ад сялян у сваіх правах? Ці можна сялян і мяшчан у ВКЛ аб’яднаць у адно — трэцяе — саслоўе?
4. Якімі важнымі прывілеямі валодала шляхта? Якія павіннасці яна несла?
5. Да якога саслоўя вы жадалі б належаць, калі б жылі ў XVI ст.? Патлумачце свой адказ.
6*. Прыдумайце і намалюйце знак або герб свайго роду з дапамогай тэксту параграфа. Растлумачце, што ён значыць. Для чаго і ў якіх сітуацыях яго можна выкарыстаць?



32 Правообладатель Издательский центр БГУ




У досыць традыцыйным рэчышчы ў падручніках па сусветнай гісторыі падаюцца звесткі пра рымска-каталіцкі касцёл ў Сярэднявеччы: палітычная моц і ўплыў папаў рымскіх, інквізіцыя, крыжовыя паходы. І, канешне, гэтыя гістарычныя з’явы і працэсы павінны быць асветлены. Разам з гэтым замоўчваюцца абмежавальныя мерапрыемствы іншых канфесій. Ёсць звесткі пра фактычныя інквізіцыйныя працэсы (пакаранне смерцю за багахульства, варажбу і іншыя правіны) у праваслаўнай царкве, аднак пра гэта гаворка ў падручніках не вядзецца. Падобным чынам не асвятляюцца смяротныя прысуды праціўнікаў кальвінізму ў Жэневе, якія мелі месца ў сярэдзіне XVI ст. Ствараецца ўражанне, што каталіцызм – гэта “горшае” хрысціянства, хаця сродкі і метады ўмацавання і захавання сваіх пазіцый ва ўсіх хрысціянскіх цэркваў былі прыкладна аднолькавыя. Розніца назіралася толькі ў тым, на якой тэрыторыі якая царква мела большасць вернікаў і больш падтрымлівалася дзяржавай.

Адзначаючы палітычную і ваенна-палітычную дзейнасць каталіцкай царквы, падручнікі рэгулярна адзначаюць, што “галоўнай захавальніцай культуры заставалася хрысціянская царква” (Сусветная гісторыя 6 кл.). Ствараецца пэўны дысананс у суіснаванні двух кірункаў: ваенна-палітычнага і культурнага. Да таго ж, што датычыць культуры, роля каталіцкай царквы падаецца часам зменшанай, а іншых цэркваў – у некаторых выпадках перабольшанай.

У параграфе пра Візантыю адзначана: “У Візантыі склаўся саюз праваслаўнай царквы і дзяржавы. Царква падтрымлівала імператарскую ўладу, а імператары апекавалі царкву. Але канстанцінопальскі патрыярх не ўмешваўся ў барацьбу за ўладу. У адрозненне ад каталіцкай царквы царква ў Візантыі не імкнулася падпарадкаваць сабе манархаў. Праваслаўная царква Візантыі сыграла вельмі важную ролю ў распаўсюджанні хрысціянства. Адсюль праваслаўе было прынята многімі народамі, асабліва славянскімі. Каталіцкая царква прызнавала для набажэнстваў толькі лацінскую мову. Большасць жыхароў Еўропы яе не ведалі. А праваслаўная царква дазволіла грэкам весці службу на грэчаскай мове, грузінам – на грузінскай, славянам – на царкоўнаславянскай”. Разам з гэтым адзначым, што місійная дзейнасць каталіцкай царквы вялася на мове тых народаў, куды адпраўляліся місіянеры. Мовай жа набажэнства з’ўлялася лацінская, якая ў тыя часы была ўніверсальнай (падобна да сённяшняй англійскай). Веданне лацінскай мовы забяспечвала шырокія магчымасці, у тым ліку і адукацыйныя на тэрыторыі ўсёй Еўропы. Улічваючы гэты факт, гаварыць пра абмежавальную функцыю лацінскай мовы ў перыяд Сярэднявечча не зусім дарэчна. Таксама адзначым, што пераклады літургічных тэкстаў Кірыла і Мяфодзія былі зацверджаны менавіта Папам Рымскім Адрыянам.

У 13 параграфе падручніка па сусветнай гісторыі за 6 клас апісваюцца падзеі стогадовай вайны (1337 – 1453) паміж Англіяй і Францыяй. Значная ўвага ў тэксце надаецца і постаці Жанны д’Арк. Апісваюцца яе розум, смеласць і рашучасць, а таксама роля ў ваенных поспехах Францыі ў гэтай вайне. У параграфе адзначана: “Усе французы, ад селяніна да феадала, паверылі, што Жанну паслаў Бог і Бог выратуе іх ад англічан. Карл паставіў дзяўчыну на чале арміі і даў ёй во-

⇒

# (некалькі рэфлексій на прыкладзе падручнікаў для 5-9 класаў)

⇐ пытных дарадчыкаў. Падчас баёў яна пастаянна была ў найбольш небяспечных месцах і паказвала сапраўдны цуд храбрасці. У 1429 г. армія на чале з Жаннай падышла да Арлеана. Хутка англічане былі разбіты. Арлеан быў у асадзе 209 дзён, армія Жанны д'Арк вызваліла яго за 9 дзён! Для французаў гэта быў сапраўдны цуд і доказ дапамогі Бога".

Разам з гэтым у пагаграфе адзначаецца, што "лёс Жанны д'Арк склаўся трагічна. У 1430 г. яе ўзялі ў палон бургундцы. За вялікі выкуп герцаг Бургундыі аддаў яе англічанам. Над Жаннай быў праведзены царкоўны суд (вылучана РЗ), які абвінавацію яе ў вядзьмарстве. Суд прызнаў Жанну вінаватай у ерасі, і яна была спалена на вогнішчы ў 1431 г. Праз 25 гадоў па распараджэнні караля Францыі справа Жанны д'Арк была перагледжана, і яе прызналі невінаватай. Жанна д'Арк стала нацыянальнай гераіняй Францыі". Аўтары падручніка не адзначаюць, што прысуд Жанне д'Арк быў у хуткім часе перагледжаны, а яна была беатыфікаваная і кананізаваная каталіцкай царквой.

Некаторыя пытанні ўзнікаюць адносна тэрміналогіі. Тэрміналагічны слоўнік падручніка па гісторыі Беларусі для 7 кл. дае наступнае азначэнне канфесіі: "кірунак, плынь у межах той ці іншай рэлігіі". У хрысціянстве існуюць такія канфесіі, як каталіцтва, праваслаўе, уніяцтва, пратэстантызм. Падручнік па гісторыі Беларусі для 8 класа адзначае: "канфесія – рэлігійны кірунак, веравызнанне з уласцівай яму абраднасцю." Адзначым, што ўсё ж не зусім карэктна ўніяцтва аднесена да асобнай канфесіі, паколькі канфесія мае ўласнае веравызнанне, адрознае ад іншых (Сімвал Веры). У выпадку ўніяцкай царквы Сімвал Веры будзе ідэнтычным з рымска-каталіцкім, адрозным, аднак будзе абрад.

Заўважная і блытаніна ў назвах канфесій і рэлігій. Так, у падручніку па гісторыі Беларусі за 8 клас чытаем: "Адзін з царскіх чыноўнікаў пакінуў свае ўспаміны пра дыялог магілёўскага губернатара і селяніна з Быхаўскага павета, дзе ўніяты адмовіліся прыняць праваслаўе: «Губернатар: Чаму вы не паслухалі дырэктара эканоміі? Вера ўсё ж адна, тая ж хрысціянская. Ён вас не яўрэямі хацеў зрабіць (...)". Тут відавочная ілюстрацыя з'явы, калі нацыя/этнас атаясамліваецца з канфесіяй/рэлігіяй. У якасці прыкладу можна прывесці частыя суадносіны: яўрэй=іудзей, паляк=католік, рускі=праваслаўны і г.д. Аднак нават у выпадку этнічных форм рэлігіі (да якіх належыць іудаізм) у падручніках іх сінанімічнае ўжыванне недапушчальнае. І нягледзячы на тое, што прыведзеная цытата – з успамінаў, падаецца неабходным фарміраваць у вучняў правільны тэрміналагічны апарат. З цытаты ж вынікае, што яўрэй – гэта канфесія, а не нацыянальнасць. Разам з тым у іншых месцах даецца карэктнае вызначэнне іудаізму.

Падручнікі пашыраюць і замацаваную ў беларускай гістарыяграфіі памылку адносна езуіцкіх калегіумаў. Так, чытаем: "У Полацку (1580 г.) і Нясвіжы (1585 г.) пачалося будаўніцтва езуіцкіх калегіумаў (сярэдніх навучальных устаноў)". Тут (і ў іншых месцах) зроблена агульная памылка. Езуіцкі калегіум – гэта ўласна езуіцкі кляштар (адзін з яго відаў, побач з рэзідэнцыямі і місіямі). Пры іх, у сваю чаргу, дзейнічалі школы.

Калі тэндэнцыі ўмацавання каталіцкай царквы на тэрыторыі Беларусі прыведзеныя досыць карэктна і звязаныя з падтрымкай палітычнымі сіламі гэтай канфесіі, то вось працэсы яе заняпаду ў ХІХ ст. у падручніках не адлюстраваныя.

Тут можам адзначыць наступнае. Нягледзячы на тое, што каталіцкае духавенства і агулам каталіцкая царква ў падручніках найчасцей паказваецца ў сувязі з палітычнымі падзеямі, шэраг такіх момантаў наўпрост не адлюстроўваецца. Пачынаючы з канца XVIII ст., не адлюстраваныя палітычныя погляды і дзейнасць духавенства ў ХІХ ст. Напрыклад, не адзначана, што значная частка каталіцкага духавенства і іерархіі (зрэшты, як і насельніцтва Беларусі) у вайне 1812 г. падтрымала французскія войскі. Адсутнічаюць згадкі пра тое, што каталіцкае духавенства масава падтрымала паўстанне 1830–1831 гг. (рэкамендуем азнаёміцца з артыкулам, адсканаваўшы QR-код)



і пра рэпрэсіі адносна касцёла пасля падаўлення гэтага паўстання, калі была закрыта палова каталіцкіх кляштараў на тэрыторыі Беларусі. У §6 падручніка па гісторыі Беларусі для 8 класа адзначана толькі: "Пасля паўстання 1830-1831 гг. адным з найважнейшых кірункаў урадавай палітыкі стала барацьба супраць уплыву каталіцкай царквы, якая падтрымала паўстанцаў. Урад ішоў па лініі скарачэння колькасці каталіцкага духавенства і змяншэння яго маёмасці. У 1832 г. з'явіўся ўказ аб закрыцці каталіцкіх кляштараў, якія не мелі поўнага складу манахаў, і пераводзе іх маёнткаў у разрад казённых (дзяржаўных). Да сярэдзіны 1840-х гг. у каталіцкага духавенства была адабрана асноўная маса царкоўных зямельных уладанняў. Ліквідацыя каталіцкай царквы як буйнога феадала-ўласніка ставіла яе ў большую залежнасць ад дзяржавы".

§6 падручніка па гісторыі Беларусі для 8 класа мае назву "Канфесійныя адносіны". У ім адзначаецца, што "ў першыя дзесяцігоддзі існавання ў межах Расійскай імперыі каталіцтва паступова страчвала статус прывілеяванай веры." Аднак не адзначана, што гэта вынікала з прававога становішча праваслаўнай царквы ў Расійскай Імперыі, якая мела афіцыйны статус "дзяржаўнай" і "пануючай". Пераходы з праваслаўя ў іншыя веравызнанні былі забароненыя, а ў выпадку выяўлення такіх сітуацый – караліся.

Уплыў каталіцкай царквы на адукацыю ў ХІХ ст. таксама не адзначаны. Пры тым, што большая палова сярэдніх навучальных устаноў, і адзіная


**Пачатак барока. Мастацтва і архітэктура.** Інтэнсіўныя кантакты з суседзямі, дзейнасць каталіцкіх манаскіх ордэнаў спрыялі пранікненню і засваенню ўзораў позняга Рэнесансу і *барока*. Барока стала ўвасабленнем перамогі ідэй Контрэфармацыі. Яго адметнымі рысамі з'яўляюцца ўрачыстасць, ускладненасць формаў, параднасць, пышны дэкор. Першым на беларускіх землях помнікам, створаным у гэтым стылі, стаў касцёл Божага Цела ў Нясвіжы. Яго ўзвёў у 1587—1593 гг. архітэктар-езуіт *Ян Марыя Бернардоні* як сімвал магутнасці Каталіцкага касцёла.

*З урокаў сусветнай гісторыі ўспомніце характэрныя рысы архітэктуры Рэнесансу і барока.*

З канца XVI — пачатку XVII ст. магнаты і шляхта пачалі надаваць архітэктуры вялікае значэнне. Прыгожыя будынкі дапамагалі пад-


▲ Касцёл Божага Цела ў Нясвіжы. Канец XVI ст.




вышэшая – Полацкая езуіцкая акадэмія – належалі менавіта ёй. Адзначаючы развіццё беларусазнаўства ў першай палове ХІХ ст., таксама не падаюцца факты ўключэння ў вывучэнне Беларусі езуітаў. Пры асвятленні постацей і творчасці Яна Чачота, Адама Міцкевіча і іншых не гаворыцца, што гэта былі выхаванцы ордэнскіх школ (дамініканскай у Навагрудку). Разам з гэтым у § 24 "Адукацыя і навука ў 1860-х гг. — пачатку ХХ ст." робіцца націск на стварэнне і дзейнасць царкоўна-прыходскіх (праваслаўных) школ. Як бачым, і ў дадзеным выпадку ствараецца сувязь паміж праваслаўнай царквой і развіццём адукацыі, у той час як у выпадку з каталіцкай царквой гэтая сувязь абсалютна не паказаная. Разам з гэтым падручнік адзначае: "Царква лічыла галоўнай задачай выхаванне вернасці праваслаўю і цару, а не набыццё ведаў".

Пры гэтым блокі (альбо параграфы) "Царква і рэлігія" ў падручніках па гісторыі Беларусі заканчваюцца на сярэдзіне ХІХ ст. Узнікае пытанне: ці з таго часу царква не адыгрывала значнай ролі ў грамадстве?

Перадапошнюю згадку пра сітуацыю з царквой знаходзім у падручніку па гісторыі Беларусі за 9 кл. У § 7 "Грамадска-палітычнае жыццё БССР у 1920 — 1930-я гг." адзначаецца: "Барацьба з царквой стала адной з галоўных задач савецкай улады. Быў створаны Саюз ваяўнічых бязбожнікаў, праводзілася антыцаркоўная агітацыя, забараняліся рэлігійныя арганізацыі. У час другой пяцігодкі, якую назвалі «бязбожнай», адбылося масавае закрыццё цэркваў і касцёлаў. Іх каштоўнасці і маёмасць перадаваліся дзяржаве, а самі яны адводзіліся пад сельскія клубы або перапрацоўваліся ў склады. У 1939 г. у Савецкай Беларусі ўжо не дзейнічала ніводная царква. Святары былі пазбаўлены выбарчых правоў". Больш згадак пра царкву ў ХХ ст. у падручніках па гісторыі Беларусі няма. Ствараецца ўражанне, што яна як грамадскі і гістарычны рудымент проста знікла. Аднак у § 28 "Грамадска-палітычнае жыццё ў другой палове 1990-х гг. — пачатку ХХІ ст." знаходзім інфармацыю пра тое, што "сучасная Беларусь – адна з нешматлікіх краін, дзе няма канфліктаў на рэлігійнай глебе. Акрамя праваслаўнай актыўна дзейнічаюць ва ўмовах даверу, павагі, міру і стабільнасці такія традыцыйныя канфесіі, як рымска-каталіцкая, уніяцкая, пратэстанцкія, а таксама іудаізм і іслам".

Агулам з падручнікаў не вынікае разуменне таго, што сённяшнія ўмовы суіснавання дзяржава – царква, чалавек – царква абсалютна адрозніваюцца ад умоў 150-гадовай даўніны. Сёння традыцыйнай для нас формай існавання царквы ў дзяржаве з'яўляецца іх аддзеленасць адна ад адной. Адпаведна складана ўяўляць іншыя формы ўзаемадзеяння, а падручнікі не даюць разумення таго, што раней грамадства – гэта грамадства канфесійнае, грамадства сукупнасці цэркваў, сукупнасці прадстаўнікоў цэркваў і іх юрыдычнага, побытавага і іншага ўзаемадзеянняў.

З матэрыялу падручнікаў не ў поўнай меры вынікае і тое, што каталіцкая царква з'яўлялася актыўным суб'ектам адукацыйных, культурных і навуковых працэсаў. Традыцыйна яна звязваецца з палітычнымі ўплывамі, крыжовымі паходамі і інквізіцыяй (у падручніках па сусветнай гісторыі) і паланізацыяй (у падручніках па гісторыі Беларусі). Не да канца зразумелымі з'яўляюцца і функцыі царквы як інстытута і яе роля ў грамадстве на працягу розных гістарычных перыядаў.

намеснік Аляксандр Хадкевіч у 1498 г. заснаваў *Супрасльскі манастыр* на Падляшшы (цяпер тэрыторыя Польшчы). У далейшым ён стаў адным з самых славутых праваслаўных манастыроў у краіне.

Праваслаўная царква ў Вялікім Княстве Літоўскім імкнулася захаваць старажытныя духоўныя і культурныя традыцыі народа. Яна забяспечвала іх перадачу ад старых да новых пакаленняў.

**Каталіцкі касцёл на беларускіх землях.** Каталіцтва было пашырана ў асноўным на паўночным захадзе сучаснай Беларусі. Тут пражывала шматлікае балцкае насельніцтва. Менавіта яно ўсвой час прыняло хрысціянства паводле каталіцкага абраду.

*З якога часу пачалося пашырэнне каталіцтва ў ВКЛ? Што, на вашу думку, магло спрыяць гэтаму працэсу?*


▲ Кляштар бернардынцаў у Вільні. Пачатак XVI ст.

Каталіцкі ВЕСНІК
№7 (135)
ліпень 2022 г.

# Пожилые родители: как достигнуть гармоничного общения

**Вопрос "Как достичь гармоничного и неконфликтного общения с пожилыми родителями?" рано или поздно встает перед каждым из нас. Так устроена жизнь: когда-то бодрые, активные родители становятся пожилыми, более забывчивыми, иногда "чудят" или на людях ведут себя неадекватно, требуют к себе большего внимания, их помощь и советы, скорее мешают, чем помогают, с ними все сложнее найти общий язык. В этом случае есть только один способ улучшить отношения с ними и сделать их более легкими и простыми. Нужно понять и принять, что лучшими эти отношения уже не будут никогда. И легкими и простыми тоже никогда не будут. Нужно найти в себе силы, чтобы дать пожилым родителям возможность быть такими, какие они есть: уважать их детский выбор, выполнять глупые просьбы, не относиться серьезно к их идеям и советам, соглашаться на странные требования, не спорить с ними, когда они говорят абсолютную и очевидную глупость. Потому что зачем? Какой смысл?**

■ Марина Ткач, *психолог*



Для того чтобы общение с пожилыми родителями было комфортным для всех сторон, нужно помнить о некоторых особенностях данного возрастного периода.

Физиология пожилого человека устроена таким образом, что он с каждым днем начинает чувствовать себя хуже и хуже. В итоге появляется заниженная самооценка, чувство неудовлетворения собой. Отсюда постоянные ворчания и, порой, даже срывы на родных. Общаться с родителями становится непросто еще и по причине того, что истощаются нервные волокна, происходят изменения в мозговой деятельности, ухудшаются процессы восприятия и обработки информации, появляются проблемы в словесной формулировке мысли, плохо контролируются реакции организма.

Общаться для пожилых – то же самое, что жить. И именно поэтому рассказы о походах в магазин или истории из жизни соседей они воспринимают как нечто важное, а мы же видим в этом что-то совсем незначительное.

Люди в пожилом возрасте по-своему воспринимают ход времени. Для них все происходит сейчас, они живут в настоящем. "Застывание" во времени сказывается на интеллектуальном, духовном пространстве. Пожилой человек не может свободно общаться, не может внезапно подключиться к разговору или же он не остановится, пока не расскажет свою историю до конца.

Пожилые люди любят идеализировать прошлое, разговаривать о былых днях. Они готовы часами рассказывать о своей прожитой молодости, ведь именно тогда пожилые родители были в полном расцвете сил и чувствовали себя прекрасно. А сейчас воспоминания, а точнее, их проговаривание позволяет ощутить "вкус" почти забытого счастливого времени.

Что же касается более конкретных рекомендаций по общению с пожилыми родителями, то они следующие:

Не относитесь к общению с родителями как к долгу. Общение с родителями – особенно если оно связано с негативными эмоциями – воспринимается взрослыми детьми куда тяжелее, если они относятся к этому как к долгу. У вас есть свобода выбора, как и в каком режиме общаться с родными людьми. Напоминайте себе почаще, что вы не заложник в этих отношениях, и тогда общение с родителями станет для вас куда приятнее.

Звоните первым. Хотя часть родителей может быть в общении с детьми излишне навязчивой, многие, напротив, боятся лишний раз кого-то побеспокоить. В определенном возрасте они могут начать чувствовать свое общество нежелательным, а самих себя – лишними и ненужными. Чтобы помочь им преодолеть это ощущение, не дожидайтесь, когда они сами вам позвонят, опережайте их: звоните и навещайте их по собственной инициативе. Когда родители чувствуют свою значимость для вас, они будут спокойнее, и поводов для конфликтов станет гораздо меньше. Будьте уверены.

Сообщайте меньше негативных новостей. С возрастом у людей появляется страх перед жизнью – в силу того, что они сами уже не могут на нее значительно повлиять. Поэтому часть проблем приобретает характер нерешаемых и вызывает у пожилых родителей серьезные затруднения и стресс. Постарайтесь по мере возможного ограждать их от слишком травмирующих новостей. А вот про небольшие проблемы, в которых они могут вам помочь, рассказывайте охотно – так они убедятся, что еще полезны и нужны вам. Это чувство очень важно в жизни любого человека.

Будьте понимающим, но не давайте собой манипулировать. С возрастом у людей часто портится характер – это не секрет. Это связано как с физическим состоянием, так и с тем, что пожилой человек куда менее гибок в психологическом смысле, чем молодой. Поэтому удивляться изменившемуся поведению родителей не надо – постарайтесь их понять и принять, не давая, однако, собой манипулировать. Для этого выстраивайте четкие личные границы, давая тем самым понять, что у вас есть своя, личная жизнь, с которой вы сами разберетесь.

Контролируйте, что и как



вы говорите. Бывает, что в беседе с пожилыми родителями мы случайно говорим что-то лишнее. Поэтому старайтесь следить за своей речью. Нужно понимать, что теперь вы играете другую роль: вы должны заботиться о родителях. Даже когда приходится слушать нравоучения и наставления пожилой матери или отца, не встревайте со своими едкими замечаниями. Реагируйте на их недовольства спокойно. Пожилые люди особо чувствительны, поэтому хорошо оценивают тон вашего общения с ними. Пара совсем нейтральных по смыслу предложений, но сказанных в плохом настроении, может им показаться вызовом, вашим стремлением начать конфликт.

С чистого листа. Чтобы ни происходило, как бы тяжело ни было, какие бы обиды вольно или невольно нам пожилые родителями не нанесли, завтра будет новый день. И до завтра нужно научиться забывать все, что происходило сегодня. Мы не тащим обиды изо дня в день. Мы выкидываем их из головы, из сердца, из памяти – и просто забываем. И начинаем новый день взаимоотношений с чистого белого листа. И тогда все станет хорошо.

Старость – самая заразная "болезнь" на свете. Больны старостью все, без исключения. Это лишь вопрос времени. Надо увидеть в пожилых родителях без пяти минут себя. От этого становится порой страшно, но легче. Просто напоминайте себе, что общение с пожилыми родителями – это в каком-то смысле общение с нами самими, сострадание и любовь к ним – это любовь к нам самим, таким, какими мы станем через пару десятков лет.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Эма Козел (Докшыцы)**, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ганна Кірплюк** *(Варапаева)*, **Алена Бялецкая** *(Браслаў)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Казімір Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Тэрэза Каптур** *(Едлавічы)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Караліна Сарока** *(Мінск)*, **Марыя Гарачка** *(Шаркаўшчына)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Ірына Грыцкевіч** *(Сарокі)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Міхаіл Дуброўскі** *(Нагаўкі)*, **Ядвіга Цорах** *(Мілты)*, **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Яніна Рагіня** *(Муцеўшчына)*, **Часлава Паўлючонак** *(Студзяніца)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Браніслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Ганна Лук'янская** *(Пялікі)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Станіслава Варэнік** *(Мінск)*, **Таццяна Шук** *(Лявонпаль)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Вера Беганская** *(Жары)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Зенона Алекснін** *(Браслаў)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Іван Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Валерыя Шымковіч** *(Навасёлкі-2)*, **Леакадзія Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Леангіна Давыдзенак** *(Усце)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Станіслава Жук (Мосар)**, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Яніна Стаўронская** *(Луцк Масарскі)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Станіслава Носка** *(Мосар)*, **Ірэна Сіманенкава** *(Мосар)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Яніна Ластоўская** *(Мосар)*, **Ядвіга Лысёнак** *(Мосар)*, **Марыя Міронава** *(Мосар)*, **Уладзіслава Бохан** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Альжбета Калмук** *(Мосар)*, **Чэслава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Ванда Альсевіч** *(Мосар)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ластоўская** *(Радзюкі)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Арсеній Фёдараў** *(Глыбокае)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб'е)*, **Ніна Васеха** *(Наваполацк)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Ядвіга Трайко** *(Браслаў)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Ліля Іватовіч** *(Яневічы)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

## Разважаем над Божым словам

**Запрашаем чытачоў "Каталіцкага Весніка" пачытаць рубрыку "Разважаем над Божым словам".**

Разважанні над зместам евангельскіх чытанняў кожную нядзелю з'яўляюцца на сайце Catholicnews.by. Аўтар разважанняў – ксёндз-канонік Віктар Місевіч, галоўны рэдактар газеты "Каталіцкі Веснік".



# Першы ў Беларусі касцёл святога Ігнацыя Лаёлы асвечаны ў Віцебску



**9 ліпеня – асаблівы дзень у гісторыі Віцебска. Таму што менавіта ў гэты дзень у парафіі св. Уладзіслава быў асвечаны новы касцёл у гонар св. Ігнацыя Лаёлы. Абрад асвячэння здзейсніў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.**

■ **Laліта Арлоўская**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота.*

Парафія св. Уладзіслава была заснаваная біскупам Уладзіславам Блінам яшчэ ў 2008 годзе, але доўгі час не мела свайго будынка і здымала памяшканне ў бізнэс-цэнтры. Гэта было вельмі нязручна, бо нават у звычайную нядзелю памяшканне не змяшчала ўсіх вернікаў, не гаворачы пра вялікія ўрачыстасці.

У чэрвені 2019 года парафія перайшла пад апеку айцоў-езуітаў. Пробашчам быў прызначаны а. Віктар Жук SJ, вікарыем застаўся а. Станіслаў Памыкала SJ, які тады ўжо некалькі гадоў служыў разам з кс. Віктарам Місевічам, папярэднім пробашчам.

Будова касцёла пачалася два гады таму, але ў сувязі з некаторымі цяжкасцямі некалькі разоў тэрмін яго здачы, на жаль, пераносіўся. Трэба таксама адзначыць, што пры будове і ўнутраным афармленні касцёла ўзнікла дастаткова дыскусій. Але ўсё ж яго асвячэнне стала вялікай радасцю для парафіі.

Падзяліць гэтую радасць з парафіянамі прыехалі святары з усёй дыяцэзіі, вернікі з іншых парафій Віцебска. Таксама на ўрачыстасці прысутнічаў правінцыял Вялікапольска-Мазавецкай правінцыі Таварыства Езуса а. Збігнеў Лячкоўскі SJ.

Урачыстасць пачалася малітвай на двары перад храмам, падчас якой біскуп Алег адчыніў дзверы новай святыні і запрасіў усіх увайсці. Пасля гэтага пачаліся непасрэдна літургія і асвячэнне. Напачатку сцены будынка акрапілі святой вадой.

Падчас казання біскуп Алег нагадаў вернікам, што гэтая ўрачыстасць – выключная падзея, прыемны момант, каб дзякаваць Богу. Добры знак таго, што мы ўсё ж шукаем шляхі, якія будуць асвячаць нашае жыццё, шляхі, якія вядуць нас да Божага Валадарства. "Асвячэнне, – патлумачыў біскуп Алег, – азначае, што з гэтага моманту будынак пераходзіць у выключную ўласнасць Бога і ўжо не належыць гэтаму свету. Праз асвячэнне гэтае месца становіцца тым месцам, дзе адбываюцца святыя рэчы".

Біскуп Алег таксама сказаў і пра незвычайнасць архітэктурнага стылю новага будынка. Ён адзначыў, што такія формы дазваляюць сёння пазбегнуць стварэння вобраза касцёла як выключна аб'екта культуры. Гэтая незвычайнасць дае магчымасць новаму касцёлу быць месцам, куды я не прыходжу, як у музей, але дзе я сустракаю Таго, Хто мяне чакае і любіць. Любіць настолькі, што зноў і зноў ахвяруе Сябе на алтары. Аддае жыццё. "Так, гэты будынак не будзе абуджаць у нас такіх эмоцый, як іншыя, больш традыцыйныя сакральныя будынкі, але ён больш накіроўвае нашыя думкі на тое, як выглядае наша душа, бо мы ёсць будоўля Божая," – сказаў пастыр дыяцэзіі.

Таксама біскуп Алег параўнаў асвячэнне святыні з хростам чалавека, але адзначыў, што новы касцёл сёння хрысціцца знутры, бо з ім усё зразумела, яго асвяцяць і ён будзе месцам культу. Нас хрысцілі звонку, каб гэты хрост мог перамяніць нас знутры, бо з намі ўсё больш складана, мы маем вольную волю, таму нашым абавязкам з'яўляецца тое, каб мы гэтую Божую будоўлю, закладзеную падчас хросту, у сабе захавалі. І гэтаму паслужыць новы касцёл.

Пастыр дыяцэзіі звярнуў увагу на месца разважання алтара ў касцёле, бо ён знаходзіцца блізка, амаль у роўнай ступені ад кожнага ўдзельніка Літургіі. "Будынак запрашае да таго, каб я паспрабаваў аднавіць свае адносіны з Богам. Прыгадаў сабе, што азначае быць чалавекам-вернікам, быць, а не толькі называцца. Каб я вызначыў ужо для сябе, хто ж такі для мяне Бог," – сказаў іерарх.

Біскуп Алег яшчэ раз нагадаў, што менавіта сэрцы людзей з'яўляюцца ці павінны з'яўляцца найпрыгажэйшай святыняй Бога,. Але каб збудаваць яе, патрэбныя практыка і ўзбагачэнне досведу адносінаў з Богам. У гэтым нам павінна дапамагчы наша святое месца.

Пасля казання асвячэнне працягнулася. Зводны хор парафій Святога Духа і святога Уладзіслава разам са святарамі і вернікамі праспявалі Літанію да ўсіх святых, якая звычайна спяваецца касцёлам падчас вырашэння важных спраў. Сцены і алтар касцёла памазалі святым алеем. Затым на алтары запалілі кадзідла. Яго дым сімвалізуе малітвы вернікаў, якія яны будуць узносіць да Бога. Потым пробашч а. Віктар Жук SJ атрымаў з рук біскупа Алега запаленую свечку, каб запаліць свечкі на сценах храма. Таксама святло было запаленае ва ўсім касцёле.

Пасля літургіі вернікі падзякавалі Яго Эксцэленцыі біскупу Алегу Буткевічу за асвячэнне храма. Падзякавалі ўсім святарам, якія ўклалі свае сілы ў стварэнне парафіі і будоўлю касцёла. Са словамі падзякі да прысутных звярнуліся а. Віктар Жук і а. Клеменс Верт, які менавіта і займаўся арганізацыяй будоўлі. Яны падзякавалі ўсім, хто дапамагаў справе на розных этапах: спонсарам, арганізатарам, актыўным парафіянам, а таксама тым, хто спрыяў у падрыхтоўцы ўрачыстасці і яе ўпрыгожванні.

Затым кс. Віктар Місевіч прачытаў дэкрэт асвячэння касцёла ў гонар святога Ігнацыя Лаёлы. Дакумент праз некалькі хвілінаў быў падпісаны біскупам Віцебскім, канцлерам Віцебскай дыяцэзіі, пробашчам парафіі святога Уладзіслава, правінцыялам Вялікапольска-Мазавецкай правінцыі Таварыства Езуса, прадстаўніком парафіяльнай рады і кіраўніком будаўніцтва айцом Клеменсам Вертам.

Святкаванне працягнулася ў адміністрацыйнай частцы будынка, дзе быў падрыхтаваны стол з прысмакамі для ўсіх ахвотных.



## Першы езуіт-беларус склаў вечныя манаскія шлюбы

**10 ліпеня ў касцёле св. Ігнацыя ў Віцебску айцец Віктар Жук склаў свае канчатковыя манаскія шлюбы, якія прыняў правінцыял Вялікапольска-Мазавецкай правінцыі Таварыства Езуса а. Збігнеў Лячкоўскі SJ.**

■ **Laліта Арлоўская**



Айцец Віктар Жук нарадзіўся ў 1979 годзе ў Пінску, паступіў у навіцыят ордэна езуітаў у 2003 годзе, дзе пачаўся яго шлях да святарскага паклікання ў манаскім жыцці. Падчас сваёй фармацыі ў ордэне езуітаў атрымаў добрую багаслоўскую і філасофскую адукацыю. 14 жніўня 2014 года з рук арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча прыняў святарскае пасвячэнне ў Мінску, з чэрвеня 2019 года з'яўляецца пробашчам у парафіі св. Уладзіслава. З таго часу а. Віктар вядзе актыўную дзейнасць па ўсёй Беларусі, распаўсюджваючы ігнацыянскую духоўнасць.

Падчас казання айцец Збігнеў звярнуў увагу на любоў. Любоў да бліжняга і Бога, праз якую чалавек мае магчымасць выйсці са стану "закаханасці ў самога сябе", пра што гаворыць Езус у прыпавесці пра добрага самараніна. "У гэтай прыпавесці любоў падаецца не як проста слова, але як нешта вельмі канкрэтнае, чаму нас вучыць Езус. Таму святы Ігнацый Лаёла ў ігнацыянскай духоўнасці заклаў такія прынцыпы: любоў будуецца больш на ўчынках, чым на словах, і прынцып – "дапамагаць душам".

Айцец Збігнеў адзначыў, што прынцып "дапамагаць людзям" не абмяжоўваецца дапамогай выключна духоўнай, але часам прымае вельмі канкрэтныя формы. Таму ў кожным месцы, дзе дзейнічаюць езуіты, яны перш за ўсё прыкладаюць намаганні на распазнанне і рэалізацыю той патрэбы, якую маюць чалавечыя душы і чаго патрабуе ад іх Бог.

"Сёння, калі айцец Віктар Жук складзе свае канчатковыя манаскія шлюбы ў ордэне езуітаў, ён такім чынам скажа "хачу дапамагаць душам". Зараз яго асабістае заданне – дапамагаць душам тут, у Білеве, у парафіі святога Уладзіслава, але, канешне, ён патрабуе і вашай дапамогі, падтрымкі", – заўважыў айцец-правінцыял.

Перад абрадам святой Камуніі айцец Віктар Жук склаў шлюбы беднасці, чысціні, паслухмянасці, а таксама шлюб асаблівай паслухмянасці Святому Айцу адносна місій. Ад імя генеральнага настаяцеля Таварыства Езуса гэтыя шлюбы прыняў правінцыял Вялікапольска-Мазавецкай правінцыі Таварыства Езуса а. Збігнеў Лячкоўскі SJ.

Напрыканцы св. Імшы парафіяне падзякавалі айцу-правінцыялу за канчатковае прыняцце а. Віктара Жука ў Таварыства Езуса. Падзякавалі таксама бацькам за тое, што добра выхавалі сына не толькі для сябе, але для Бога і на служэнне людзям. Вернікі павіншавалі а. Віктара з гэтым важным момантам у яго жыцці.

Айцец Віктар падзякаваў парафіянам за віншаванні, за добрую арганізацыю гэтага свята, за штодзённую падтрымку, якая, прызнаўся пробашч, сапраўды неабходная кожнаму святару. Ён запрасіў застацца пасля Літургіі, каб разам адсвяткаваць гэты момант ужо традыцыйнай для парафіі стравай з марозівам.

# У Заневічах ушанавалі памяць святароў Казіміра Жыліса і Ежы Стэцкевіча

**26 чэрвеня арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч наведаў парафію Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Заневічах, дзе блаславіў дзве мемарыяльныя дошкі, усталяваныя ў гонар святароў, якія шмат зрабілі для адназлення рэлігійнага жыцця ў Беларусі.**

На Імшы многія прысутныя парафіяне і госці маліліся аб дары вечнага жыцця для двух спачылых святароў – ксяндза-прэлата Ежы Стэцкевіча і айца Казіміра Жыліса SI, якія засталіся ў гісторыі мясцовай парафіі. У гаміліі арцыбіскуп казаў пра безумоўную аддаласць і вернасць пакліканню гэтых святароў.

"Айцец Казімір Жыліс быў езуітам, і калі ў Беларусі адчуваўся вялікі недахоп святароў, ён прыехаў служыць у Індуру. Пры гэтым абслугоўваў шмат іншых парафій, у тым ліку і асірацелую пасля смерці ксяндза Юзафа Мацяеўскага каталіцкую супольнасць у Заневічах, – нагадаў іерарх. – Ён клапаціўся не толькі пра матэрыяльны стан даверапых яго апецы касцёлаў, але перадусім пра духоўнае дабро душаў і пра справу паклікання. З-пад яго рукі выйшаў не адзін святар, у тым ліку і сённяшні Мінска-Магілёўскі Мітрапаліт арцыбіскуп Юзаф Станеўскі". Арцыбіскуп Кандрусевіч дадаў, што айцец Жыліс першым распачаў відэадакументацыю адраджэння Касцёла ў Беларусі, стварыўшы неацэнную хроніку гэтага працэсу.

Арцыбіскуп на пенсіі нагадаў, што ксёндз Ежы паспрыяў і адраджэнню Касцёла ва ўсёй Беларусі. Ён часта прыязджаў, дапамагаў аднаўляць касцёл у Заневічах, разам з братам Андрэем пабудаваў у гонар бласлаўлёнай Цэліны Бажэнцкай, заснавальніцы кангрэгацыі сясцёр Езуса Змёртвыхпаўсталага, капліцу ў Абрамшчыне, недалёка ад Заневічаў, і зрабіў шмат іншых добрых спраў на ніве Пана.

Па словах іерарха, святары Казімір Жыліс і Ежы Стэцкевіч пакінулі як заўважны матэрыяльны, так і глыбокі духоўны след у справе адраджэння Касцёла ў Беларусі.

"Яны верна і да канца служылі Богу, Касцёлу і вернікам, пакуль хвароба каранавірусу не стала прычынай іх смерці, – адзначыў арцыбіскуп. – Айцец Казімір памёр у Варшаве і там пахаваны. Ксёндз Ежы памёр у Калініградзе і пахаваны там пры пабудаваным ім касцёле святога Адальбэрта. Удзячныя за яго ахвярную працу вернікі напісалі на помніку на яго магіле вельмі прыгожыя і кранальныя словы на рускай мове: „Ушёл, чтобы остаться". Айцец Казімір і ксёндз Ежы адышлі, каб застацца ва ўдзячнай памяці людзей".

"Няхай мемарыяльныя дошкі ў іх памяць нагадваюць пра наш абавязак адказваць "так" на кожны Божы заклік і заставацца вернымі свайму пакліканню, бо ў гэтым наша шчасце. А добры і міласэрны Бог няхай прыме іх у сваё Валадарства", – сказаў арцыбіскуп.



*Прэс-служба Гродзенскай дыяцэзіі*

# Парафіяльную ўрачыстасць у Оршы адзначылі разам з рухам "Маці ў малітве" з усёй Беларусі

**25 чэрвеня ў парафіі Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі ў Оршы адбылася адпустовая ўрачыстасць. На яе прыбылі мясцовыя парафіяне, а таксама госці. У гэтыя дні ў рэкалекцыйным доме пры суседняй парафіі св. Юзафа праходзіла ўсебеларуская сустрэча руху «Маці ў малітве», таму маці і бабулі з усёй Беларусі таксама завіталі на свята.**

■ Марына Сінкевіч, *тэкст і фота*

Урачыстае святкаванне распачалося адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту. Затым адбылася галоўная святая Імша, якую цэлебраваў і прамовіў гамілію кс. Мікалай Ціхановіч – пробашч з Глыбокага і экзарцыст Віцебскай дыяцэзіі. «Сёння мы перажываем вялікае свята нашай Мамачкі Марыі і, канешне, найболын мы радыя вітаць Яе, што Яна з намі, прыходзіць, каб адкрыць Сваё Сэрца і навучыць па-сапраўднаму любіць», – на самым пачатку сказаў пробашч парафіі кс. Яўген Шымановіч і прывітаў прысутных вернікаў.

«Сёння наша Нябесная Маці Марыя асаблівым чынам глядзіць на Оршу, таму што гэта месца з'яўляецца ўсходняй часткай Беларусі, бліжэй да Расіі. Сэрца Марыі асабліва перажывае праз Расію за ўвесь свет... Марыя, паглядзі на гэтую парафію, няхай адсюль разыходзіцца Божая міласць на абыякавыя людскія сэрцы», – распачаў Літургію кс. Мікалай.

Падчас гаміліі святар распавёў пра сімвалічнасць і гісторыю святкавання Беззаганнага Сэрца Марыі.

Людміла Губіна, каардынатар руху «Маці ў малітве» ў Беларусі, сказала некалькі слоў для мясцовых парафіянак і гасцей пра гэты рух, і з нагоды свята падарыла букет белых руж Маці Божай з пажаданнем: «На ружах заўсёды ёсць шыпы, гэта як у жыцці нашыя грахі, якімі мы ранім Беззаганнае Сэрца Марыі. Таму хочацца, каб як мага менш было шыпоў, што выходзяць ад нас, а былі яны толькі на ружах». Сваё сведчанне ўдзелу і малітвы склала шматдзетная маці Аксана з Гродна.

Напрыканцы Імшы пробашч Яўген падзякаваў усім, хто так ці інакш прычыніўся да арганізацыі фэсту, а таксама і гасцям урачыстасці.



# Арцыбіскуп Станеўскі атрымаў палій Мітрапаліта з рук Папы Францішка

**29 чэрвеня ў ватыканскай базыліцы святога Пятра адбылася Эўхарыстыя з нагоды ўрачыстасці святых апосталаў Пятра і Паўла, у якой узяў удзел Папа Францішак.**




Як паведаміла Беларуская рэдакцыя партала Vatican News, цэлебрацыю ўзначаліў кардынал Джаванні Батыста Рэ – дэкан Калегіі кардыналаў. Падчас Літургіі Пантыфік блаславіў паліі для 44-х арцыбіскупаў-мітрапалітаў, прызначаных на працягу апошняга года, у тым ліку для Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Юзафа Станеўскага, які канцэлебраваў урачыстую Эўхарыстыю ў базыліцы святога Пятра.

У прамоўленай гаміліі Святы Айцец звярнуў увагу на літургічнае чытанне з Дзеяў Апосталаў пра цудоўнае вызваленне Пятра з вязніцы і на скіраваныя да яго словы анёла Пана: «Уставай хутчэй!» (Дз 12,7).

Паводле Пантыфіка, хрысціянская супольнасць таксама пакліканая «хутка ўстаць, каб увайсці ў дынаміку ўваскрасення і дазволіць Пану весці сябе па шляхах, якія Ён хоча ўказаць».

Папа заклікаў «скіраваць позірк на новыя далягляды, на адкрытае мора», не быць «зняволенымі ў вязніцы прызвычаенасцяў, спалоханымі пераменамі і навязанымі на ланцуг нашых звычаяў», бо гэта вядзе да «духоўнай пасрэднасці» і тушыць місійны запал. Такім чынам вера можа пераўтварыцца ў фармалізм, рэлігію цырымоній і абрадаў, знешніх аздабленняў і прымітыўных суцяшэнняў, – папярэдзіў Святы Айцец.

«Сінод, які мы перажываем, кліча нас стаць Касцёлам, што ўстае, а не замыкаецца ў сабе. Ён здольны глядзець шырэй, выйсці з уласных вязніц, каб ісці насустрач свету», – сказаў Пантыфік.

Каментуючы словы апостала Паўла, які, падсумоўваючы сваё жыццё, сказаў, што «змагаўся ў добрай барацьбе» (2 Цім 4, 7), Святы Айцец нагадаў, што кожны ў Касцёле пакліканы станавіцца місійным вучнем: не быць пасіўным гледачом, а рабіць свой унёсак. «Сінадальны Касцёл значыць наступнае: удзельнічаюць усе, ніхто не займае месца іншых і ніхто не знаходзіцца пад іншымі», – дадаў пастыр паўсюднага Касцёла.

Ён заўважыў, што абвяшчэнне Евангелля – гэта сапраўдная барацьба, бо яно не прадугледжвае кампрамісу з логікай свету, але запальвае агонь Божага Валадарства там, дзе пануюць чалавечыя механізмы ўлады, зла, гвалту, карупцыі, несправядлівасці, маргіналізацыі. Папа заклікаў «не замыкацца ў нашых касцельных колах і не прывязвацца да нашых бясплённых дыскусій», але дапамагаць адно аднаму станавіцца закваскай у свеце.

«Разам мы можам і павінны клапаціцца пра чалавечае жыццё, пра ахову стварэння, пра годнасць працы, пра праблемы сям'і, пра цяжкую сітуацыю пажылых і пакінутых, уцекачоў і тых, хто ўпаў у роспач. Словам, мы павінны быць Касцёлам, які развівае культуру клопату, спачування да слабых і барацьбы супраць усіх форм дэградацыі, у тым ліку нашых гарадоў і месцаў, каторыя мы наведваем, каб радасць Евангелля заззяла ў жыцці кожнага: гэта наша „добрая барацьба"», – сказаў Пантыфік.

Напрыканцы гаміліі Папа Францішак прывітаў новых арцыбіскупаў-мітрапалітаў, а таксама дэлегацыю Канстанцінопальскага Патрыярхату, заклікаючы «крочыць разам», бо толькі разам «мы можам быць зернем Евангелля і сведкамі братэрства».

Як зазначае Vatican News, з 2015 года Папа больш не накладае паліі новым арцыбіскупам-мітрапалітам, як гэта адбывалася раней. Згодна з рашэннем Папы Францішка, названы абрад здзяйсняюць Апостальскія нунцыі ў дыяцэзіях, дзе служаць новапрызначаныя іерархі. У Рыме Пантыфік толькі ўручае ім гэты атрыбут літургічнага адзення Мітрапаліта.

Цырымонія па традыцыі праходзіць ва ўрачыстасць святых Пятра і Паўла. Перад ёй паліі ўскладаюцца на магілу святога Пятра, што знаходзіцца пад галоўным алтаром ватыканскай базылікі.

*Catholic.by*

# 20-годдзе Беларускага Непакалянава

**24-25 чэрвеня ў Удзеле ў касцёле Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі, пабудаваным у 18-м стагоддзі, адбыліся ўрачыстасці ў межах святкавання 20-годдзя стварэння Беларускага Непакалянава.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота.*

Цэлебрацыю ўрачыстай святой Імшы ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. На пачатку Імшы пробашч парафіі а. Яраслаў Банасяк шчыра прывітаў шаноўных гасцей – біскупа Алега, кс. пралата Францішка Кіселя, апостальскага візітатара а. Сяргея Гаека, святароў, законных сясцёр і братоў, Рыцараў Беззаганнай і ўсіх вернікаў, якія сабраліся ў касцёле ў гэты святочны дзень. Айцец Яраслаў узгадаў ролю спачылага кс. пралата Булькі, пробашча з Мосара, які шмат зрабіў для вяртання і аднаўлення касцёла ў Удзеле ў 1989 - 2002 гадах. Таксама а. Яраслаў зачытаў Акт заснавання Беларускага Непакалянава ад 24 чэрвеня 2002 года.

Падчас гаміліі а. Павел Раманчук засяродзіў увагу на асобе святога Максіміліяна Марыі Кольбе, які ў 1917 годзе з мэтай навяртання грэшнікаў, а таксама асвячэння ўсіх душаў праз заступніцтва Панны Марыі заснаваў таварыства «Рыцарства Беззаганнай». У 1927 годзе ў Польшчы ён распачаў будаўніцтва кляштара-выдавецтва Непакаланаў. У 1930 годзе а. Максіміліян выехаў на місіі ў Японію і заснаваў там кляштар «Сад Беззаганнай». Падчас Другой сусветнай вайны святы быў арыштаваны і замучаны ў канцлагеры Аўшвіц-Біркенау 14 жніўня 1941 года. Максіміліян Марыя Кольбе лічыў, што самае галоўнае ў жыцці – стаць святым.

Справу, распачатую а. Максіміліянам, працягнулі браты. У наш час кляштары пад назвай Непакаланаў ёсць у Польшчы, Японіі, Бразіліі, ЗША і Беларусі. Беларускі Непакаланаў можна лічыць цэнтрам таварыства «Рыцарства Беззаганнай» у Беларусі, якое вядомае ў нашай краіне з 1922 года.

У часе Імшы ахвотныя далучыліся да таварыства «Рыцарства Беззаганнай». Затым адбылася працэсія дароў, падчас якой да алтара былі прынесеныя свечка, дыпломы і медалікі Рыцараў Беззаганнай, 20 белых і чырвоных ружаў, што сімвалізуюць чыстасць і мучаніцтва заснавальніка Непакалянава, Рэгула і абноўленая Канстытуцыя, вэлён для блаславення вернікаў Найсвяцейшым Сакрамантам, віно і вада, Эўхарыстычны хлеб.



Быў абвешчаны прывітальны ліст айцапраўнцыяла Марыюша Бартосіка. Біскуп Алег Буткевіч зачытаў Акт прысвячэння Беззаганнай паводле св. Максіміліяна Марыі Кольбе.

Пасля Імшы адбылося Чэрвеньскае набажэнства і блаславенне вернікаў Найсвяцейшым Сакрамантам. Прагучаў гімн «Цябе, Бога, праслаўляем».

Затым біскуп Алег Буткевіч асвяціў помнік у гонар 20-годдзя заснавання Беларускага Непакалянава.



## На жнівень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль);*

**4 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела);*

**5 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы);*

**7 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Параф'янава);*

**10 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта),* **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын);* гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск);*

**14 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск);*

**16 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы),* **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына);*

**17 жніўня** – імяніны адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі);*

**18 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта),* **кс. Валерый Марціноўскі** *(Віцебск)* і **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск);*

**21 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі);* гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Аляксей Варанко** *(Віцебск);*

**26 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры);*

**29 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Брэст);*

**31 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель).*

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Арфеева***



# Тэст на літару "Г"

**У новым тэсце "Каталіцкага Весніка" запрашаем Вас, дарагія чытачы, паразважаць і знайсці ўсе правільныя адказы на літару "Г".**

**1 Як яшчэ называецца казанне, што святар прамаўляе да вернікаў падчас святой Імшы?**



**А.** Габіт;
**Б.** Гамілія;
**В.** Гісторыя.

**2 Гэтым заклікам віталі Езуса ў Пальмавую нядзелю падчас Яго ўваходу ў Ерузалем.**



**А.** Глёрыя;
**Б.** Гасанна.

**3 Што падчас святой Імшы становіцца Целам Езуса Хрыста?**



**А.** Гостыя;
**Б.** Гасціна.

**4 У гэтай мясцовасці нашай краіны няма санктуарыя Маці Божай...**



**А.** Гродна;
**Б.** Гудагай;
**В.** Гервяты.

**5 Тэалагічны Каледж імя святога Казіміра знаходзіцца ў...**



**А.** Гродне;
**Б.** Гомелі;
**В.** Глыбокім.

**6 У Бібліі называецца "Месцам Чэрапа"...**

**А.** Галгофа;
**Б.** Герар;
**В.** Гаваон.

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

**7 Які з пералічаных святых лічыцца апекуном горада Гродна?**



**А.** Геранім;
**Б.** Герасім;
**В.** Губерт.

**8 Што казаў св. Тамаш Аквінскі пра перамяненне Езуса? Устаўце патрэбнае слова замест шматкроп'я: "У перамяненні з'явілася перадусім Найсвяцейшая Тройца: «Айцец – у ..., Сын – у чалавеку, Дух – у зззяючым воблаку».**



**А.** Голасе;
**Б.** Гаворцы;
**В.** Галаве.

**9 Святы Казімір, сын караля Казіміра Ягелончыка і каралевы Альжбеты, памёр ад сухотаў у...**



**А.** Гродне;
**Б.** Гальшанах;
**В.** Гожы.

**10 Як называецца Імша, якая цэлебруецца без перапынку, трыццаць дзён запар, за аднаго памерлага:**



**А.** Грыгарыянка;
**Б.** Герам'янка;
**В.** Германка.

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

# Святая Клара. Гісторыя дзяўчыны-бунтаркі

**11 жніўня Каталіцкі Касцёл успамінае святую Клару – першую жанчыну, якая стала паслядоўніцай св. Францішка, а таксама заснавальніцай Ордэна кларысак.**



«Я – Клара, маленькі парастак нашага святога айца Францішка...», – так яна сама сведчыла пра сябе. Стрададаўні біёграф звяртае ўвагу на тое, які цёмны быў тады час: свет здаваўся прыгнечаным, і вока веры было затуманенае. «Але Бог паслаў Францішка – зззюючае сонца Асізі, а потым і Клару – "ярка палаючае святло для ўсіх жанчын"".

### Клара азначае "светлая"

Святая Клара паходзіла з арыстакратычнай сям'і. Нарадзілася 16 ліпеня 1194 года ў Асізі (Італія). Маці, молячыся напярэдадні родаў у саборы Святога Руфіна перад крыжом, пачула голас, які прадказаў ёй нараджэнне дзяўчынкі: «Жанчына, не бойся, бо ты шчасліва народзіш яркі прамень, які асвяціць свет». Таму дзяўчынку назвалі Кларай, што значыць «светлая».

З дванаццаці гадоў бацькі спрабавалі выдаць Клару замуж, аднак пад рознымі падставамі ёй удавалася аж да 18-годдзя ўхіляцца ад гэтага. Жыццё будучай святой ад ранняга юнацтва было сціплым і мела набожны характар: Клара часта адмаўлялася ад ежы і пасылала яе бедным, ахвяравала грошы людзям, якія жывуць у нястачы.

### Сустрэча са святым Францішкам

Улічваючы невялікія памеры Асізі, Клара, безумоўна, ведала гісторыю навяртання святога Францішка, якая ператварыла яго з багатага і распуснага хлопца ў пакорнага, апранутага ў жабрацкае адзенне маладога чалавека, што даглядаў пракажоных. Акрамя таго, першыя паслядоўнікі Францішка, Руфіна і святар Сільвестр, былі стрыечнымі Клары. Назіранні за гэтай пераменай мелі моцны ўплыў на юную дзяўчыну. Клара прыняла канчатковае рашэнне пакінуць бацькоўскі дом і рушыць услед за Хрыстом у «святой галечы». Цётка Клары, якой таксама былі даспадобы ідэалы святога Францішка, дапамагла арганізаваць таемную сустрэчу пляменніцы з Францішкам. Клара адкрылася Францішку ў жаданні цалкам прысвяціць сябе Хрысту, адкінуўшы мір і захоўваючы цноту, а той ухваліў гэты намер і абяцаў ёй сваю падтрымку і дапамогу. Але паколькі бацькі ніколі не адпусцілі б яе добраахвотна, Клара адважылася на ўцёкі.

### Памерці для міру, каб нарадзіцца дзеля Хрыста

Уцёкі адбыліся ў ноч 18 сакавіка 1212 г. (гэта была Пальмавая нядзеля). Клара выйшла са свайго дому праз спецыяльныя дзверы, праз якія выносілі мерцвякоў (такія дзверы існавалі ў тыя часы ў дамах Умбрыі). Гэта быў сімвалічны жэст з яе боку: Клара памерла для міру, каб нарадзіцца дзеля Бога. Нейкім чынам Клара выбралася за гарадскую сцяну (што было нялёгкай справай, бо гарадская брама на ноч замыкалася) і накіравалася ў капліцу Парцункула па-за сценамі горада, дзе яе сустрэлі Францішак з братамі. Там яна змяніла сваю элегантную сукенку на грубае францішканскае адзенне. Затым ля алтара Францішак абрэзаў яе доўгія залацістыя валасы і пагаліў ёй тансуру, а Клара склала яму на рукі шлюбы беднасці, цноты і паслухмянасці.

Згодна з касцельным правам, выконваць падобныя дзеянні мог толькі біскуп, Францішак жа не з'яўляўся нават святаром. Таму біскуп Гвідо загадзя надзяліў Францішка паўнамоцтвамі на гэты выпадак. Такі быў шлях, на які маці і заснавальніца Бедных Кларысак уступіла 18 сакавіка 1212 года. На нейкі час святы Францішак адправіў яе ў манастыр сясцёр-бэнэдыктынак. Там яна назвалася жабрачкай, якая не мае ніякага пасагу ў дар манастыру, і была прынятая сёстрамі. Калі Клара паспяхова пераадолела супраціў сваёй сям'і, што мела намер прымусіць яе вярнуцца дадому, яе сястра Агнешка далучылася да яе таксама. Разам са сваёй сястрою Агнешкай Клара пасялілася пры касцёле святога Дам'яна непадалёк ад Асізі, побач з якім праз нейкі час заснавалі невялікі кляштар. Ён стаў першай сядзібаю Ордэна Убогіх Сясцёр-кларысак, статут якога напісаў сам святы Францішак.



### Ордэн Убогіх Сясцёр-кларысак

Жыццё кларысак было ўладкавана па прыкладзе жыцця жабрачых супольнасцей францішканцаў. Хутка колькасць прысвечаных Богу паннаў павялічылася. Яны служылі ў вялікай беднасці, строгім пакаянні і поўнай адзіноце ад свету ў адпаведнасці з правілам, якое даў ім святы Францішак. Клара была абавязаная ў паслухмянстве прыняць пасаду настаяцельніцы ў 1215 годзе і выконваць гэтыя абавязкі на працягу 38 гадоў, да самай смерці. Але яе любоў да пакоры знаходзіла кампенсацыю ў выкананні самай цяжкай працы для сваіх сясцёр. Нягледзячы на вялізныя фізічныя пакуты, яна стала для іх яркім прыкладам стараннасці ў пакаянні і малітве. Пасля смерці бацькі Клары ў манастыр уступілі яе маці і малодшая сястра Беатрыса.

Распаўсюджванне ордэна кларысак было вельмі хуткім. Праз два гады пасля заснавання ордэна ў ім налічвалася толькі восем сясцёр, але ўжо на наступны год было заснавана шмат манастыроў у буйных гарадах Італіі, а праз пяць гадоў з'явіліся першыя манастыры кларысак у Іспаніі (у Бургасе і Барселоне), у 1220 г. – у Францыі (у Рэймсе) і г. д. У ордэн уступалі дочкі знакамітых дваран і князёў.

Пасля смерці Клары ордэн пачаў разрастацца яшчэ хутчэй. У канцы XVI стагоддзя, нягледзячы на страты, прычыненыя ордэну рэфармацыяй, у ім налічваецца яшчэ дзвесце манастыроў з 25.000 сясцёр, якія знаходзіліся пад вышэйшым кіраўніцтвам генерала францішканаў. Амаль столькі ж сясцёр было падпарадкавана дыяцэзіяльным біскупам.

### Статут ордэна

Правілы ордэна неаднаразова падвяргаліся зменам. Першыя правілы былі складзеныя па просьбе Францішка кардыналам Уголіна каля 1219 года. У аснову паклалі прынцыпы святога Бэнэдыкта, але ім нададзены быў больш строгі характар. Праз некаторы час сам Францішак па просьбе Клары разам з кардыналам Уголіна склаў новыя правілы ў дванаццаці раздзелах па ўзоры правілаў мінарытаў. Галоўнымі патрабаваннямі былі: беднасць, строгі затвор, пастаяннае маўчанне, пасты і ўстрыманне ад мяса, забарона манастырам мець даходы і ўласнасць. 15 красавіка 1253 года гэта было зацверджана булаю Папы Інакенція IV.

### Фрагменты са Статута сясцёр св. Клары

*Лад жыцця св. Клары*

Калі паводле боскага закліку вы зрабіліся дочкамі і слугамі Усявышняга – найвышэйшага Валадара, Айца Нябеснага, і заручыліся са Святым Духам, выбраўшы жыццё ў выкананне святога Евангелля, хачу і абяцаю ад сябе і ад братоў маіх заўсёды мець пра вас такі ж руплівы клопат, як і пра сябе, і асаблівую апеку.

*Апошняя воля, напісаная св. Клары*

Я, нікчэмны брат Францішак, хачу пераймаць жыццё і беднасць Усявышняга Госпада нашага Езуса Хрыста і Яго Найсвяцейшай Маці і ўмацавацца ў гэтым аж да самага канца. І прашу вас, спадарыні мае, і даю вам параду, каб вы заўсёды знаходзіліся ў гэтым найсвяцейшым жыцці і беднасці. І вельмі сачыце за тым, каб ні чым вучэннем, ні радай ад яе навекі ніяк не адпалі.

### Святая Клара і яе эўхарыстычная вера

Клара мела вельмі вялікі аўтарытэт у тагачасным Касцёле: па парады да яе звярталіся біскупы, кардыналы і Папы. Святая чэрпала са сваёй эўхарыстычнай веры вялікую сілу, якая рабіла яе бясстрашнай нават перад нашэсцем сарацынаў: у 1240 годзе войска сарацынаў, якія былі на службе імператара Фрыдрыха II, наблізілася да Асізі. Яны атакавалі невялікі манастыр Сан-Даміяна, які быў ляжаў за межамі горада, і ўжо ўзлезлі на яго сцены. У смяротным страху сёстры прыбеглі да маці-настаяцельніцы, што ляжала хворая ў ложку.

Святая, несучы манстранцыю з Найсвяцейшым Сакрамантам, падышла да акна манастыра. Там яна горача малілася да Госпада нябёсаў словамі псальма (Пс 73:19): «Не аддай звярам душу галубкі Тваёй, сходу ўбогіх Тваіх не забудзься назаўсёды. Таямнічы голас з нябёсаў сказаў: "Я заўсёды буду прыглядаць за табой". Адразу паніка ахапіла войска. Прамень яркага святла, які выходзіў ад Святой Камуніі, асляпіў іх. Яны ўпалі са сцен і беглі прэч. Манастыр і горад Асізі былі выратаваныя.

### Прыгожы канец зямнога жыцця

На працягу трыццаці гадоў Клара пакутавала ад сур'ёзнай хваробы і адчувала, што яе канец набліжаецца. Пасля таго, як яна атрымала апошнія сакраманты, яна і адна з яе сясцёр убачылі Валадарку паннаў, Каторая ідзе з вялікім эскортам, каб сустрэць яе, жонку Езуса Хрыста. 11 жніўня 1253 года Клара ўвайшла ў вечную радасць. Яе цела пахавалі на наступны дзень. Папа Аляксандр IV кананізаваў яе ўжо ў 1255 годзе, а ў 1958 годзе Клару абралі ў якасці сусветнай апякункі тэлебачання. ⇒







⇐ Праз яе заступніцтва просяць дапамогі пры хваробах вачэй і слепаце.

**Тры парады ад святой Клары**

Св. Клара Асізская пайшла па слядах св. Францішка, адкрываючы беднасць як лад жыцця. Калі яна сама выбрала стопрацэнтнае жыццё паводле Евангелля, то прыцягнула да гэтага і іншых. Адной з жанчын, захопленых Кларай, была Агнешка Пражская – дачка чэшскага караля (пазней яна таксама стала святой). Захаваліся лісты, якія ёй пісала Клара. Ёсць тры цікавыя парады, што сёння могуць быць карыснымі для вучняў Езуса.

**1. Любоў**

Клара піша Агнешцы, што яна абрала для сябе «жаніха з больш шляхетнага стану, Пана Езуса Хрыста (...). Яго сіла большая, Яго высакароднасць вышэйшая, Яго позірк прыгажэйшы, Яго любоў саладзейшая і далікатнейшая».

Клара не піша, каб Агнешка абрала рэлігійнае жыццё замест прыдворнага. Яна падкрэслівае, што любоў Агнешкі да Езуса павінна быць канкрэтнай. Чытаючы ліст, ствараецца ўражанне, што за сэрца Агнешкі змагаліся двое. Прапанова аднаго была прынятая, другому адмовілі. Імператар Фрыдрых двойчы рабіў прапанову Агнешцы. Аднак яна адмовілася ад заручын і ўступіла ў манаскае жыццё.

Клара паказвае Агнешцы і нам, што любоў да Езуса павінна быць канкрэтнай, бо Ён рэальны і канкрэтны. Радасць ісці за Ім падобная да пошуку любові ўсяго жыцця. Такім чынам Бог сапраўды можа пасяліцца сярод нас – «паставіць намёт у нас». Тады на нашых вачах адбываецца Назарэт. Богаўцелаўленне перастае быць проста абстрактнай тэалагічнай праўдай, яно становіцца рэальнасцю. Клара падказвае Агнешцы: **рабі сваю любоў канкрэтнай.**

**2. Убогасць**

Другая парада Клары – пра беднасць: "вы ведаеце, што апрануты чалавек не можа змагацца з голым, бо лягчэй паваліць на зямлю таго, у каго ёсць за што ўхапіцца, яго лягчэй збіць з ног". Грошы, амбіцыі, сацыяльнае становішча, прэстыж, павага з боку іншых, поспех, гаджэты і раскошныя рэчы часта з'яўляюцца нашым «адзеннем».

Здаецца, што калі надыдуць цяжкія часы, гэтая вопратка абароніць нас. Грошы дазволяць нам выжыць, важныя знаёмыя дапамогуць з працай, а гаджэты пацвердзяць нашу каштоўнасць у цяжкі час. Тым часам Клара адзначае: у штодзённым жыцці мы змагаемся за дабро. Калі мы разлічваем на сябе і сваю «сацыяльную вопратку», тады працїўнік зможа лёгка схапіць нас і паваліць на зямлю.

Справа не ў тым, каб не мець зберажэнняў, сяброў і сучасных гаджэтаў. Святая Клара дае добрую параду Агнешцы, але гэтая парада актуальная і ў нашыя часы. **Што б ні здарылася і што б мы ні мелі, мы голыя перад Богам.** Калі мы ўсведамляем сваю безданаможнасць і беднасць, мы можам перамагчы ў барацьбе за дабро.

**3. Пост**

Клара таксама дае парады Агнешцы наконт посту. З нагоды сваіх пастоў, якія ў кларысак даволі строгія, яна згадвае слабых і хворых сясцёр, якіх трэба адрозніваць, калі гаворка ідзе пра ежу.

Гэта таксама заахвочванне для нас паклапаціцца пра сябе, калі мы адчуваем сябе аслабленымі або калі хварэем. Клара, хоць і вельмі строга трымалася посту, піша Агнешцы: «Я прашу цябе, дарагая, мудра і разважліва **ўстрымацца ад неасцярожнай і немагчымай суровай аскезы ў сваім посце**, якую, як я ведаю, ты пачала ўжываць». Яна адзначае, што «наша плоць не бронза», а сілы не падобныя да каменя. «Мы крохкія», – піша Клара.

Цікавая падказка для Агнешкі – парада пра чацвер. У чацвер пост неабавязковы. Клара вылучае гэты дзень, які, акрамя нядзелі і святаў, заслугоўвае асаблівага стаўлення. У чацвер мы стаміліся ад працы і ўсяго тыдня. Мы можам убачыць, як зменіцца наша жыццё, **калі зробім нешта асаблівае ў чацвер днём.** Мы дамовімся на размову, паглядзім фільм, прачытаем або паслухаем кнігу і г.д.

Праз гэтыя тры парады, дадзеныя Агнешцы з Прагі, Клара паказвае, як прымяняць евангельскія парады чыстасці, беднасці і паслухмянасці ў штодзённым свецкім жыцці. Бо цнатлівасць – гэта любоў, убогасць – свабода, а ў паслухмянасці – умеранасць і разважлівасць.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***

# История выздоровления Эли М.

**Впервые в группу АА я попала в 2017 году в возрасте 35 лет. А предыдущие 20 лет до этого я с переменным успехом употребляла совершенно различные алкогольные напитки – от дорогих коньяков до «Росинки» в пакетиках. И планомерно гробила свою жизнь.**

Хотя, казалось бы, причин для этого у меня не было никаких. Я росла в «приличной» семье, отлично училась в школе и была «хорошей» девочкой. Но почему-то в тот день, когда я впервые попробовала алкоголь, что-то перещелкнуло у меня внутри, и мой мозг запустил программу самоуничтожения.

С тех пор пила я часто, много, допиваясь до полной потери памяти, попадая постоянно в разные «истории», и каким-то чудом каждый раз выкарабкиваясь обратно.

Тем не менее за свою жизнь я успела выйти замуж (за такого же алкоголика, как я. А как могло быть иначе?!), родить ребенка и даже построить неплохую карьеру. Бог не обделил меня талантами, умом, но я все это продолжала уничтожать алкоголем. Уже понимая и осознавая весь ужас происходящего, я не могла остановиться.

Я развелась с мужем, и «тормозов» вообще не осталось. С работы грозились вышвырнуть после очередного загула. Жизнь казалась тяжким мрачным бременем, я ненавидела себя и людей вокруг. И только возможность вечером «сняться» алкоголем не давала окончательно сойти с ума.

На этом свете меня удерживал сын, мне нестерпимы были мысли о том, что ребенок останется сиротой и будет страдать. Я мечтала только о том, чтобы «просуществовать» еще несколько лет, пока он не подрастет. А потом все, гори оно синим пламенем…

После множества кодировок, заговоров, иглоукалываний, психологов и прочего в возможность излечения от алкоголизма я не верила.

Но произошло чудо! То чудо, которого я все еще ждала, боясь в этом признаться даже себе самой. Совершенно случайно я узнала о том, что есть сообщество Анонимные Алкоголики. И на следующий день я пошла на свою первую группу.

Это был шок, полный переворот в моей голове! После группы я плакала. Плакала от счастья, что уже не одна в этом сумрачном и страшном мире. Плакала от того, что, наконец, впервые за много лет, у меня появилась НАДЕЖДА. Плакала от того, что почувствовала: я все еще живая…

После этого моего самого первого и самого важного собрания АА прошло много времени, очень много разных событий произошло. Поразному протекало мое выздоровление, не сразу все получилось, не всегда все было гладко, но это был тот самый необходимый опыт на моем пути к свету, к жизни, к Богу.

Сейчас сообщество АА занимает большую и важную часть моей жизни: я хожу на собрания, занимаюсь со своими подопечными, помогая теперь им стать на путь трезвости так, как когда-то помогли мне. И это счастье – понимать, что я не просто так получила «второй шанс», у меня есть возможность сделать этот мир чуточку лучше и помочь тем, кто еще страдает и нуждается в помощи.

Сегодня я счастлива так, как никогда! Даже в детстве не была так счастлива…

До дрожи, до мурашек я радуюсь каждому дню моей новой жизни! Той жизни, о которой раньше я не могла даже мечтать...

***Эля М.***

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**

- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: воскресенье – 19.00
+375 (29) 737-47-64

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

### Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз Віктар Місевіч**! 28 ліпеня Вы будзеце адзначаць імяніны. З гэтай нагоды прыміце нашы шчырыя віншаванні!*

*Жадаем Вам Божай падтрымкі і натхнення ў душпастырскім служэнні і рэдакцыйнай працы, моцнага здароўя, каб хапіла сіл для здзяйснення планаў і задум! Няхай Вам ва ўсім дапамагае Пан Бог, а Маці Божая хай ахінае сваёй апекай і любоўю!*

*Дзякуючы газеце «Каталіцкі Веснік» мы памятаем пра імяніны, дні нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння ксяндзоў. Дасылаем усім святарам нізкі паклон і словы ўдзячнасці, а таксама Вашым бацькам з пажаданнямі моцнага здароўя і даўгалецця! Будзем памятаць іх у сваіх малітвах!*

***Ад усіх вернікаў Мядзельскай парафіі Маці Божай Шкаплернай, Ядвіга Жолнер***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз-пробашч Аляксей Ляшко**! З нагоды імянін (17 ліпеня) ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, сіл, трываласці, нязгаснага запалу ў святарскім служэнні, каб весці людзей да Бога! Кожны дзень захапляйцеся жыццём, любоўю і сяброўствам, а ўсмешка няхай заўсёды гасціць на Вашым твары! Няхай добры Бог адорвае Вас усімі патрэбнымі ласкамі і блаславеннем, хай Пан Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік няспынна апякуюцца Вамі!*

*Мы ўдзячныя Богу за Ваша пакліканне да душпастырскай паслугі, а Вам – за навучанне Божаму слову, за дабрыню, за чулае сэрца і клопат пра парафіянаў і ўпрыгожванне святыні!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла св. Айца Піа ў Лёзне***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважанаму **ксяндзу Юрыю Жаўняровічу** з нагоды 15-ай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем моцнага здароўя, мудрасці і цярплівасці, душэўнага супакою! Няхай Езус Хрыстус, які паклікаў Вас на святарскі шлях і даверыў выкананне такой адказнай паслугі, адорыць шчодрымі ласкамі і блаславеннем! Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом, а святы заступнік апякуецца ў кожную хвіліну жыцця!*

***Вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай (в. Замошша)***

### Хвала Хрысту!



*Віншуем Вас, шаноўны **ксёндз Уладзімір Шыдлоўскі**, з Днём нараджэння (5 ліпеня)!*

*З гэтай нагоды жадаем Вам шчасця, душэўнага спакою, моцнага здароўя! Няхай добры Бог і Найсвяцейшая Панна Марыя не пакінуць Вас без апекі, хай прыносяць радасць і суцяшэнне! Агеньчык, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, няхай гарыць усё Вашае святарскае жыццё!*

*Дзякуем Пану Богу за дар Вашага паклікання і абяцаем шчырую малітву! Сардэчна дзякуем бацькам за выхаванне цудоўнага сына-святара!*

***З павагай і ўдзячнасцю, рух «Маргарытка» (Браслаў)***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Віншуем нашага паважанага **ксяндза-пробашча Аляксандра Півавара** з Днём нараджэння (7 ліпеня)!*

*Жадаем з радаснай нагоды*  
*Здароўе мець, са шчасцем быць!*  
*Не знаць бяды, жадаем згоды,*  
*Да ста гадоў Вам зычым жыць!*

*Няхай заўсёды Бог абараняе*  
*Ад зла, хваробы і журбы.*  
*І ласку шчодра пасылае*  
*І сёння, і заўтра і заўжды!*

***З удзячнасцю і павагай, вернікі капліцы Маці Божай Будслаўскай (аг. Кардон)***

### Віншуем!



*Шчыра віншуем **ксяндза Юрыя Жаўняровіча** з гадавінай святарскага пасвячэння.*

*Жадаем Вам, паважаны ксёндз Юрый, заўсёды адчуваць моцную сувязь з Езусам Хрыстом, Які паклікаў Вас да святарскага служэння! Няхай Ваш святарскі шлях будзе вельмі плённым і шчаслівым, а Пан Бог хай заўсёды дае патрэбныя ласкі! Жадаем апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і моцнай падтрымкі нябеснага Апекуна.*

***Вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў аг. Ахрэмаўцы***

### Хвала Хрысту!

*Паважаны **кс. Яўген Міхайлаў**! Ад усяго сэрца віншуем Вас з нагоды дня нараджэння (22 ліпеня) і гадавінай святарскага пасвячэння (25 ліпеня). Няхай Бог адорыць Вас ласкай мудрасці, веры, надзеі і любові. Маці Божая дапамагае быць верным сведкам Хрыстовага вучэння і атуляе сваей апекай у цяжкія моманты. Жадаем Вам моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою, цярплівасці. Няхай заўсёды здзяйсняюцца Вашы мары і задумы, багатага плёну ў святарскім служэнні. Дзякуем Вам за абвяшчэнне Божага слова, за павучальныя казанні, за Вашае цярпенне да нас. Божых Вам ласк і благаслаўлення, няхай Вамі выбраны шлях будзе плённым і шчаслівым.*

***З павагай і ўдзячнасцю вернікі капліцы Божай Міласэрнасці аг. Навасёлкі Лучайскай парафіі***



# Два новых дома ці два новыя дамы?

***Як правільна сказаць па-беларуску***

**Сярод пытанняў, якія чытачы "Каталіцкага Весніка" адрасуюць аўтару нашай моўнай старонкі, ёсць і тыя, што непасрэдна датычаць асаблівасцяў ужывання лічэбнікаў з назоўнікамі. Гэта насамрэч праблемная пазіцыя, бо ва ўмовах дамінавання ў грамадстве рускай мовы яе правілы нярэдка аўтаматычна пераносяцца на беларускамоўны кантэкст. І тады ствараецца своеасаблівы эфект "трасянкі", толькі не на арфаэпічным, а на граматычным узроўні.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Зразумела, што людзі, якія імкнуцца правільна гаварыць па-беларуску, сутыкаюцца з падобнымі цяжкасцямі рэгулярна. Так, у прыватнасці, наш чытач з Віцебска спадар Аляксандр піша:

– Чую ў рэпартажы: "*Пабудавалі два новых дома*". Або яшчэ: "*Тры маладых хлопца працуюць за цэлую брыгаду*". Я не так даўно сур'ёзна зацікавіўся мовай, але вось звярнуў увагу, што ў падобных выпадках нешта не так. Ці можна было б крыху патлумачыць, якія ёсць правілы, калі мы ўжываем лічэбнікі?

Спадар Аляксандр мае рацыю, засяроджваючыся на правільнасці выкарыстання ў нашай мове лічэбнікаў у спалучэнні з прыметнікамі і назоўнікамі. У лінгвістыцы такія канструкцыі называюцца **колькасна-іменнымі**. І тут сапраўды ёсць пэўныя цяжкасці. Паспрабуем разабрацца.

Найперш варта акцэнтаваць увагу на асаблівасцях сувязі лічэбнікаў з назоўнікамі ў назоўным і ва ўскосных склонах. Лічэбнік *адзін* (*адна, адно, адны*) дапасуецца да назоўніка ў родзе, ліку і склоне: *адзін дом, аднаго дома, аднаму дому, адным домам* і г.д. Пры лічэбніках *два* (*дзве*), *абодва* (*абедзве*), *тры* і *чатыры* назоўнік ужываецца ў назоўным склоне множнага ліку: *два дрэвы, дзве кнігі, тры чалавекі, чатыры аўтамабілі* (гэта значыць, не можа быць: *два дрэва, тры чалавека, чатыры аўтамабіля*).

Усе астатнія лічэбнікі (*пяць, шэсць, сем* і г.д., але за выключэннем састаўных, што заканчваюцца на *адзін, два, тры* і *чатыры*) патрабуюць назоўнікаў у родным склоне множнага ліку: *пяць сшыткаў, шэсць машын, сем гарадоў, дванаццаць алоўкаў* (але: *дваццаць два сшыткі, трыццаць тры машыны, сорак чатыры гарады*). Падкрэслім яшчэ раз, што тыповая памылка – калі колькасна-іменныя спалучэнні будуюцца на ўзор рускай мовы: *два новых крэсла, тры вялікіх клёна, чатыры старых падручніка*.

Моўная практыка паказвае, што ў шэрагу выпадкаў, аднак, агучанае вышэй правіла можа не працаваць. І тады ўзнікаюць пэўныя пытанні з націскам. Нешта падобнае мы назіраем, напрыклад, пры спалучэнні лічэбнікаў *два (абодва), тры, чатыры* з некаторымі назоўнікамі мужчынскага роду. Мы гаворым: **два верхнія зубы**, **тры маладыя кані**. Але ў назоўным склоне множнага ліку – **зубы**, **коні**.

Паводле прыведзенай схемы ўжываюцца і многія назоўнікі ніякага роду: **два птушыныя гнязды** (але назоўны склон мн. ліку – **гнёзды**), **тры вялікія акны** (назоўны склон мн. ліку – **вокны**), **чатыры старыя вядры** (назоўны склон мн. ліку – **вёдры**). Таксама будуць выкарыстоўвацца і некаторыя іншыя назоўнікі ніякага роду: *сцябло, сцягно, бервяно, пяро, палатно, гумно, сядло, сяло, пісьмо* і інш.

Падобнае ж мы назіраем і ў дачыненні да назоўнікаў жаночага роду. Увогуле ўсе назоўнікі жаночага роду з націскным канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку і рухомым націскам супадаюць пры спалучэнні з лічэбнікамі *два (дзве, абедзве), тры, чатыры* і па канчатку, і па націску не з назоўным склонам множнага ліку(!), а з родным склонам адзіночнага ліку(!): **абедзве сцяны былі белыя** (назоўны склон мн. ліку – **сцены**. Родны склон адзіночнага ліку – (*няма*) **сцяны**); **жылі-былі тры сястры** (назоўны склон множнага ліку – **сёстры**. Родны склон адзіночнага ліку – (*няма*) **сястры**); **пракладзеныя чатыры новыя трубы** (назоўны склон мн. ліку – **трубы**. Родны склон адзіночнага ліку – (*няма*) **трубы**). Паводле гэтага ж прынцыпу ўжываюцца таксама назоўнікі *зіма, вясна, душа, рука, сляза, мятла, гара, нара, сава, стапа, вайна, галава, пята, старана* і некаторыя іншыя.

Такім чынам, мы разгледзелі асноўныя асаблівасці выкарыстання спалучэнняў лічэбнікаў з назоўнікамі. Адказваючы на згаданае напачатку пытанне спадара Аляксандра, канстатуем, што правільна па-беларуску павінна быць *пабудавалі* ***два новыя дамы***; ***тры маладыя хлопцы*** *працуюць за цэлую брыгаду*. Спадзяёмся, што прапанаваны матэрыял будзе карысны нашым чытачам, якія імкнуцца павышаць свой узровень валодання мовай.

# Што такое “цноты”?

**Калі б хтосьці звярнуўся да нас з такімі неакрэсленымі пытаннямі ”Ці маеш іх? А ці хочаш іх мець?”, мы не ведалі б, што адказаць. Бо можам казаць толькі пра тое, што ўяўляем, і прагнуць таго, пра што даведаліся. Гэтае правіла датычыцца як дрэнных рэчаў, каторыя могуць падавацца нам добрымі, так і сапраўднага дабра. Таму варта шукаць добрых рэчаў і імкнуцца як мага больш пра іх даведацца, каб пачаць іх прагнуць.**

■ Айцец Павел Мажэйка OP, *Віцебск*

**Дададзім канкрэтнасці пытанням, зададзеным напачатку. Дык ці маеш цноты? А ці хочаш іх мець?**

Такое знаёмае з навукі катэхізіса слова “цнота” ў штодзённым жыцці здаецца чымсьці нераспазнавальным. Мы можам пералічыць тэалагічныя цноты: веру, надзею і любоў; кардынальныя – разважлівасць, справядлівасць, мужнасць і ўмеркаванасць, але з распазнаваннем іх у сабе і іншых могуць узнікнуць праблемы. YOUCAT у 299 пункце акрэслівае цноту як “унутраную пазіцыю, пазітыўную звычку і гарачае прагненне служыць дабру”. Вобразна кажучы,

**цнота – гэта апетыт да чынення дабра.**

Практыкаванне цнотаў надае канкрэтную форму нашаму імкненню жыць добра і быць добрымі. Мы становімся на шлях евангелічнага жыцця, да якога нас запрашае Пан Езус у Нагорным казанні словамі: ”Таму будзьце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш Нябесны”(Мц 5, 48). Нашыя розум і воля, падмацаваныя цнотамі, вучацца больш дакладна распазнаваць дабро, імкнуцца да яго ўсімі сіламі і дасягаць. Так, як заганы могуць значна пагоршыць стан нашага жыцця, цноты спрыяюць павелічэнню яго маральнай якасці.

Спынімся больш на кардынальных цнотах, якія можам набываць дзякуючы ўласным высілкам і якія Бог можа падтрымаць, удасканальваючы сваёй ласкай.

Цнота **справядлівасці** дапамагае нам аддаваць Богу і бліжняму тое, што ім належыць (пар. ККК 1807). Больш выразна, дзякуючы гэтай цноце мы бачым, што толькі Богу належыць пакланенне і хвала, а нашых бліжніх мы павінны шанаваць і любіць незалежна ад таго, кім яны з’яўляюцца. Наколькі ж адрозніваецца такое значэнне ад папулярнага паняцця справядлівасці, якая эгаістычна клапоціцца пра тое, каб іншыя паступалі адносна нас сумленна і справядліва.

**Цнота справядлівасці разварочвае перспектыву на 180 градусаў.**

**Мужнасць** дапамагае нам нязломна трымацца распазнанага і выбранага дабра, нягледзячы на перашкоды і цяжкасці, якія могуць узнікнуць на шляху да яго дасягнення (пар. ККК 1808). Гэтая цнота таксама дапамагае нам мужна супрацьстаяць спакусам, трымаць абарону. Той, хто мае гэтую цноту, можа зрабіць шмат дабра ў сітуацыях, дзе іншыя будуць казаць:”Нічога не атрымаецца! Што мы можам зрабіць?!”

Мы жывём у часы насычанасці рэчамі і інфармацыяй, таму цнота **ўмеркаванасці** цяпер, бадай, найбольш актуальная. Яна ўпарадкоўвае нашае жыццё і дапамагае не засмечваць яго тым, што мы можам выбраць толькі пад уплывам хвіліннага прагнення, не задумваючыся пра вартасць выбранага (пар. ККК1809). У выніку развіцця гэтай цноты мы не становімся нявольнікамі сваіх інстынктаў і моды, але выбіраем больш удумліва і свабодна.

Больш увагі хачу прысвяціць цноце **разважлівасці**. Яе называюць кіраўніком цнотаў *(auriga virtutum)*. Дапамагае яна розуму ў розных абставінах распазнаваць сапраўднае дабро, а волі – выбіраць адпаведныя, правільныя сродкі, каб яго дасягнуць. Як жа не хапае яе вернікам, якія ў кожнай, нават дробнай справе пытаюць парады ў святара, не спрабуючы самім задумацца, як адпаведна зрабіць. Добра, калі святар клапоціцца пра развіццё ў сабе цноты разважлівасці. А што, калі не? Тады сляпы будзе вадзіць сляпога (пар. Лк 6, 39). Разважлівы чалавек не будзе ганяцца за тым, што толькі здаецца добрым, і марнаваць свае сілы, каб гэтага ўяўнага дабра дасягнуць. Колькі часу і сілаў можна зберагчы, не шкадуючы потым, што выбраў не тое, альбо памыліўся ў выбары сродкаў дасягнення распазнанага дабра, паступаючы разважліва! Такі чалавек дзейнічае як добры шахматыст, які можа, гледзячы на дошку для гульні, думаць на некалькі хадоў уперад і такім чынам прадбачыць вынік партыі на сваю карысць. З прычыны абмежаванасці нашага зямнога жыцця цнота разважлівасці набывае асаблівую актуальнасць.




Святы Тамаш Аквінскі вылучае некалькі элементаў цноты разважлівасці, якія даюць ёй дзейснасці. Гэта **памяць**, што дапамагае прымаць рашэнні, абапіраючыся на свой асабісты досвед. **Здольнасць вучыцца** бярэ пад увагу вопыт іншых, больш дасведчаных і мудрых людзей. Для разважлівых рашэнняў патрэбная **прадбачлівасць**, каб умець, хутка зарыентаваўшыся, зрабіць добры выбар. **Меркаванне** перад прыняццем рашэння дапамагае, выкарыстоўваючы тое, што ведаем, лепш зразумець тое, што здаецца новым і незразумелым. Акрамя таго, разважлівасць патрабуе **асцярожнасці**, каб не прымаць рашэнняў, не разважыўшы і не праверыўшы ўсё добра. Бо ў залежнасці ад умоваў і абставінаў штосьці можа прынесці карысць альбо нашкодзіць, можа толькі здавацца на першы погляд дабром, але не быць ім. Таму асцярожнасць ніколі не зашкодзіць разважліваму.

Перашкодай для развіцця ў нас цноты разважлівасці ёсць безразважлівасць, прыняцце хуткіх, неабдуманых рашэнняў, зменлівасць у імкненні да распазнаных добрых рэчаў.

І, нарэшце, тым, што адбірае ў нас здольнасць разважліва думаць і дзейнічаць, паводле святога Тамаша Аквінскага, ёсць распуста альбо прывязанасць да цялесных задавальненняў. Яны заглушаюць голас розуму і аслабляюць волю, а ў выніку мы становімся закладнікамі нашых пачуццяў і інстынктаў.

Хтосьці можа запярэчыць, кажучы, што лепш усё ж такі жыць жыццём поўным задавальнення і цялесных раскошаў, нягледзячы на цану памылак у неразважлівых жыццёвых рашэннях, якія праз гэта дапускаем. І можна было б нават пагадзіцца з такімі людзьмі, каб разважлівасць не дапамагала нам таксама ў распазнанні і імкненні да Найвышэйшага дабра, якім ёсць Бог. А памылковы выбар часовых задавальненняў, памінаючы галоўную мэту і сэнс нашага жыцця, у вечнасці можа мець вельмі трагічны вынік.

Варта з Божай дапамогай распачаць працу над сабой, удасканальваючыся ў цнотах і просячы Бога пра падтрымку ў гэтай нялёгкай, але вартай намаганняў справе. Толькі так мы зможам стаць людзьмі, якія жывуць і дзейнічаюць больш разумна і свабодна, а значыць так, як нас стварыў Бог.

## Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*“Каталіцкі Веснік”*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар’янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Што такое Евангелле ад Юды?

**– Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, на такое пытанне... Чаму ў Касцёле мы прызнаём толькі чатыры Евангеллі? Я чуў, што нібыта ёсць тэкст Евангелля ад Юды. Як трэба ставіцца да гэтага факту? Ці варта знаёміцца з гэтым тэкстам верніку? Дзякуй за адказ.**

*Павел*

– Дарагі Павел! Адказваючы на Ваша пытанне, паспрабую паказаць самую сутнасць разумення Евангелля ў Касцёле. Слова "евангелле" звычайна абазначае пісьмовы запіс слоў і чынаў Хрыста. Яно паходзіць з дакладнага эквівалента грэцкага *euangelion* (*eu* – "добры", *aggello* – "я нясу паведамленне"). Грэцкае слова *euangelion* першапачаткова азначала "узнагароду добрай весткай", якую давалі пасланцу, а потым проста "добрую вестку".

Тэрмін *euangelion* у Новым Запавеце ўжываецца ў дачыненні да першых чатырох кніг, якія маюць наступныя назвы: *Euangelion kata Matthaion, Euangelion kata Markon, Euangelion kata Loukan, Euangelion kata Ioannēn.* Канон Мураторыя, Клімент Александрыйскі і святы Ірэней выразна сведчаць пра існаванне гэтых загалоўкаў у другой палове другога стагоддзя нашай эры. Яны былі прыстаўлены да евангельскіх апавяданняў, але не з'яўляюцца арыгінальнымі. Менавіта ў II ст. н.э. хрысціянамі быў зроблены акцэнт на адрозненні паміж аўтэнтычнымі і дакладнымі Евангеллямі з аднаго боку і тымі, што не заслугоўваюць даверу – з другога.

Першае агульнае слова ў загалоўках чатырох Евангелляў – *euangelion* – мае ў Новым Запавеце канкрэтнае значэнне "добрай весткі аб Валадарстве" (пар. Мц 4,23; Мк 1,15). У гэтым сэнсе, які можна лічыць галоўным з хрысціянскага пункту гледжання, euangelion азначае добрую вестку аб збаўленні, абвешчаную свету ў сувязі з асобай Езуса Хрыста і здзейсненага Ім адкуплення (пар. Мц 9,35; 24,14; Мк 1,14; 13,10; 16,15; Дз 20,24; Рым 1,1.9.16; 10,16 і г.д.). Гэта значэнне стала фактычна адзіным разуменнем слова euangelion у асяроддзі хрысціянаў: магло быць толькі адно Евангелле, гэта значыць, толькі адно аб'яўленне збаўлення Езуса Хрыста, таму і некалькі яго запісаў не разглядаліся як некалькі Евангелляў, а толькі як розныя апісанні аднаго і таго ж Евангелля. Аднак паступова да слова *euangelion* далучылася вытворнае значэнне. Так, у сваёй першай "Апалогіі" св. Юстын гаворыць пра "ўспаміны апосталаў, якія называюцца Евангеллем", маючы на ўвазе не сутнасць евангельскай гісторыі, але самі кнігі, у якіх гэта запісана. Такім чынам,

**выкарыстанне тэрміна *euangelion*, які абазначаў бы пісьмовы запіс слоў і чынаў Хрыста, сягае яшчэ пачатку другога стагоддзя хрысціянскай эры.**

Другім словам, агульным для назваў кананічных Евангелляў, з'яўляецца прыназоўнік *kata* – "паводле", – дакладнае значэнне якога доўгі час было прадметам дыскусій сярод біблеістаў. Акрамя розных другарадных значэнняў, звязаных з гэтым грэцкім словам, яму прыпісваліся два асноўныя значэнні. Многія аўтары лічылі, што яно абазначае не "напісанае", а "складзенае паводле канцэпцыі" Мацвея, Марка і г. д. На іх думку, назвы нашых Евангелляў мелі на мэце не ўказаць на аўтарства, а сцвердзіць аўтарытэт, які гарантуе праўдзівасць. Большасць навукоўцаў, аднак, палічылі за лепшае разглядаць прыназоўнік kata як абазначэнне аўтарства. Сёння агульнапрызнана, што гэтыя загалоўкі азначаюць аўтарства са своеасаблівым адценнем значэння, якое не перадаецца такімі ж загалоўкамі, напрыклад, у Пасланнях св. Паўла ці Апакаліпсісе св. Яна і г.д. Таму выкарыстоўваецца родны склон *(Paulou Epistolai, Apokalypsis Ioannou)*, што не мае ніякай іншай мэты, акрамя прыпісвання зместу такіх твораў пісьменніку, чыё імя яны на самай справе носяць. Ужыванне прыназоўніка kata ("паводле") мае на ўвазе тое, што тая самая радасная вестка, або Евангелле, была выкладзена не адным апавядальнікам, а некалькімі.

### Колькасць Евангелляў

Назва "Евангелле" як пісьмовае апісанне слоў і чынаў Хрыста ўжывалася і дагэтуль ужываецца ў дачыненні да вялікай колькасці апавяданняў, звязаных з жыццём Хрыста, якія распаўсюджваліся як да, так і пасля складання "Трэцяга" Евангелля (пар. Лк 1,1-4). Да нас дайшлі назвы каля пяцідзесяці такіх твораў, і гэты факт сведчыць пра вялікую цікавасць, што ў раннія часы была засяроджаная на Асобе і дзейнасці Хрыста. Аднак толькі адносна дваццаці з гэтых "Евангелляў" захавалася некаторая інфармацыя. Гэта наступныя дакументы:

1) 4 кананічныя Евангеллі;
2) Евангелле паводле габрэяў;
3) Евангелле паводле Пятра;
4) Евангелле паводле егіпцян;
5) Евангелле паводле Мацея;
6) Евангелле паводле Філіпа;
7) Евангелле паводле Фамы;
8) Протаевангелле Якуба;
9) Евангелле паводле Нікадзіма;
10) Евангелле паводле дванаццаці апосталаў;
11) Евангелле паводле Васіліда;
12) Евангелле паводле Валянціна;
13) Евангелле паводле Маркіёна;
14) Евангелле паводле Евы;
15) Евангелле паводле Юды;
16) Пісанне *Genna Marias*;
17) Евангелле *Teleioseos*.

Нягледзячы на раннюю дату, якую часам называюць для некаторых з гэтых твораў, малаверагодна, што якое-небудзь з дадзеных "Евангелляў", акрамя нашых кананічных Евангелляў, варта залічыць да спробаў апавядання жыцця Хрыста, пра якія кажа св. Лука ў пралогу свайго Евангелля. Большасць з іх, наколькі можна меркаваць, з'яўляюцца познімі творамі, апакрыфічнасць якіх агульнапрызнаецца тагачаснымі вучонымі.

У наш час немагчыма дакладна апісаць, якім чынам са шматлікіх твораў, которыя прыпісваюцца таму ці іншаму апосталу або проста носяць назву Евангелля, толькі чатыры лічацца святымі і кананічнымі. Аднак усе раннія сведчанні, што маюць выразнае дачыненне да колькасці кананічных Евангелляў, прызнаюць чатыры Евангеллі і ніводнага больш. Так, Эўзэбій (памёр у 340 г.) пры даследаванні агульнапрынятых кніг канону, якія не выклікаюць сумневу, піша: "У першым шэрагу павінен быць змешчаны святы кватэрніён Евангелля", у той час як "Евангелле паводле габрэяў" ён адносіць да другога шэрагу, гэта значыць, да спрэчных твораў.

**Св. біскуп Ірэнэй (памёр у 202 г.) не толькі прызнае і цытуе нашы чатыры Евангеллі, але сцвярджае, што іх павінна быць толькі чатыры, не больш і не менш.**

Ён кажа: "Немагчыма, каб Евангелляў было больш ці менш, чым іх ёсць. Бо паколькі ёсць чатыры кірункі свету, у якім мы жывём, і чатыры асноўныя вятры, Касцёл раскіданы па ўсім свеце, а слупам і асновай Касцёла з'яўляецца Евангелле і Дух жыцця, то належыць, каб мы мелі чатыры слупы, якія дыхаюць неўміручасцю з усіх бакоў і ажыўляюць наша цела".

Тацыян, вучань святога Юстына, які супаставіў Евангеллі (звычайна называюць гэта Дыятэсарон – *to dia tessaron Euangelion*), таксама параўноўвае толькі чатыры кананічныя тэксты. У творах Апостальскіх Айцоў сапраўды няма бясспрэчных доказаў на карысць толькі чатырох кананічных Евангелляў. Чаму? Бо ніхто не сумняваўся, а да таго ж, слова "евангелле" ўжывалася толькі да абазначэння радаснай весткі аб збаўленні, а не да пісьмовых апісанняў аб ім.

### Асноўныя адрозненні паміж кананічнымі і апакрыфічнымі Евангеллямі

Чатыры Евангеллі, сакральны характар якіх, такім чынам, быў прызнаны вельмі рана, з самага пачатку адрозніваліся ў розных аспектах ад шматлікіх некананічных Евангелляў, што распаўсюджваліся ў першыя стагоддзі Касцёла. Перадусім яны адзначылі сябе сваім "тонам" прастаты і праўдзівасці, які яскрава кантраставаў з трывіяльным, абсурдным або відавочна легендарным характарам многіх з некананічных твораў. Падругое, яны мелі больш ранняе паходжанне, чым большасць іх апакрыфічных "канкурэнтаў". І сапраўды многія з апошніх твораў былі непасрэдна заснаваныя на кананічных Евангеллях. Трэцяй рысай на карысць сённяшніх кананічных запісаў жыцця Хрыста была чысціня іх вучэнняў, дагматычнасць і маральнасць, у параўнанні з габрэйскімі, гнастычнымі ці іншымі ерэтычнымі поглядамі, якімі былі заплямлены многія апакрыфічныя Евангеллі. Менавіта з гэтай прычыны дадзеныя творы і знайшлі прыхільнасць сярод ерэтыкоў і, наадварот, дыскрэдытавалі сябе ў вачах католікаў. Нарэшце, кананічныя Евангеллі мелі апостальскі аўтарытэт, бо два з іх былі прыпісаныя апосталам – адпаведна святому Мацвею і святому Яну, а два – святому Марку і святому Луку, спадарожнікам святых Пятра і Паўла. Многія іншыя Евангеллі сапраўды прэтэндавалі на апостальскі аўтарытэт, але для ніводнага з іх гэтае патрабаванне не было паўсюдна прынятае. Адзіным апакрыфічным творам, які ўвогуле быў успрыняты і на які абапіраліся, акрамя нашых чатырох кананічных Евангелляў, з'яўляецца "Евангелле паводле габрэяў". Але ўжо ў вельмі раннія часы яно лічылася пазбаўленым апостальскага аўтарытэту, і сам св. Геранім, які сцвярджае, што меў у сваім распараджэнні тэкст на арамейскай мове гэтага Евангелля, не адводзіць яму месца побач з нашымі кананічнымі Евангеллямі: увесь аўтарытэт, каторы св. Геранім прыпісвае яму, паходзіць з яго перакanання, што гэта быў арыгінальны тэкст нашага Першага Евангелля (паводле св. Мацвея), а не асобнае Евангелле ў дадатак да чатырох, паўсюдна прызнаваных са старажытных часоў у Каталіцкім Касцёле.

Дык ці варта знаёміцца з тэкстамі апакрыфічных евангелляў? Гэтыя евангеллі, як ужо вышэй было зазначана, не сканцэнтраваныя на асобе Збаўцы Езуса Хрыста, але на чымсьці іншым, каб звярнуць на сябе ўвагу. Таму чытач такіх твораў з лёгкасцю распазнае істотную розніцу паміж кананічнымі і апакрыфічнымі тэкстамі, бо першыя служаць як сілкаванне для веры, а другія – як знаёмства з гісторыяй крышталізацыі Евангельскай праўды з "бруду" людскіх дадаткаў.

***Літаратура***

*1. С. Гондецкий, Введение в Синоптические Евангелия, Москва, 2004 г.*
*2. Л. Буйе, О Библии и Евангелии. Лекции в католическом университете, Брюссель, 1988 г.*
*3. Евангелие Истины – двенадцать переводов христианских гностических писаний. Пер. Дм. Алексеева; под ред. А. С. Четверухина, Ростов н/Д, 2008 г.*
*4. Свящ. Р. Бартницкий, Синоптические Евангелия – история возникновения и толкование. Пер. З. Заборовского, Москва, 2009 г.*

***Кс. Валерый Марціноўскі,***
*доктар тэалогіі (Віцебск)*

## Пажар у Люрдзе. Згарэлі чатыры капліцы Святла

**Раптоўны пажар здарыўся ноччу 10 ліпеня ў люрдскім санктуарыі Найсвяцейшай Багародзіцы на ўзроўні капліц Святла, дзе пілігрымы пакідаюць запаленыя свечкі. Нягледзячы на тое, што пажарныя, выкліканыя санітарнымі службамі святыні, хутка патушылі агонь, чатыры капліцы былі пашкоджаныя, тры згарэлі цалкам. Ахвяр, на шчасце, няма.**

Але пілігрымы паранейшаму змогуць запальваць свечкі ў чатырох іншых адкрытых для іх капліцах, якія не пацярпелі ад пажару.

У чаканні адбудовы зруйнаваных капліц у найбліжэйшыя месяцы на пляцоўцы каля санктуарыя будуць падрыхтаваныя новыя месцы для ўстаноўкі свечак. На час рэарганізацыі складам свечак будуць займацца работнікі санктуарыя. Яны таксама будуць сачыць, каб запаленыя на месцы свечкі дагарэлі як мага хутчэй.

Рэктар санктуарыя а. Аліўе Рыбаду Дзюма выказаў у твітэры свае спачуванні ў сувязі з «чарговым ударам па святыні». Фінансавыя страты святыні насамрэч значныя.

«Кошт поўнай рэканструкцыі капліц і замены разбураных матэрыялаў на новыя ацэньваецца як мінімум у 1,5 мільёна еўра», – паведамляе служба санктуарыя, які зараз перажывае перыяд аднаўлення пасля каранавіруснага крызісу. «Самае галоўнае, што ніхто не пацярпеў і ў будучым пілігрымы змогуць памаліцца ў ацалелых капліцах і запаліць свечкі», – адзначыў а. Аліўе, нядаўна прызначаны рэктарам сабора Нотр-Дам у Парыжы.

1 верасня а. Мішэль Добан зойме пасаду рэктара санктуарыя ў Люрдзе. Як паведамляе прэс-служба санктуарыя, «хоць расследаванне прычын пажару працягваецца, найбольш верагодны выглядае версія выпадковага ўзгарання».



*Паводле матэрыялаў stacja7.pl, pl.aleteia.org*
*Пераклад* ***Марыны Ткач***

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА



Дарагі сябра! Працягваюцца летнія канікулы, спадзяёмся, што ты добра адпачываеш і ўмацоўваеш свае духоўныя і фізічныя сілы. У гэтым нумары мы падрыхтавалі для цябе розныя заданні, каб праверыць твае хрысціянскія веды. Працягвай вывучаць Біблію разам з Пазнавайкай!

**1** Выберы з прапанаваных малюнкаў толькі хрысціянскія сімвалы:



**2** Прачытай выраз з кнігі Эклезіяста, які зашыфраваны ў матэматычных прыкладах.

2+1=

4+1=

5+4=

3+3=

1+3=

10-2=

2-1=

5+2=

10-8=

1 - Ім
2 - сваю
3 - Хто баіцца
4 - і асвяціць
5 - Госпада,
6 - сваё сэрца
7 - душу
8 - перад
9 - прыгатуе

**3** Дзеці разам з бацькамі спяшаюцца на нядзельную святую Імшу. Знайдзі 7 адрозненняў на малюнках.





**4** Адкажы правільна на пытанні віктарыны ў лічбах:



1. Колькі існуе святых сакрамантаў у Каталіцкім Касцёле?
А) 5 ☐
Б) 7 ☐
В)10 ☐



2. Колькі дзён прасядзеў прарок Ёна ўнутры кіта?
А) 1 ☐
Б) 3 ☐
В) 7 ☐



3. Колькі існуе частак Святога ружанца?
А) 2 ☐
Б) 3 ☐
В) 4 ☐



4. Колькі гадоў было Езусу Хрысту, калі Юзаф і Марыя, вяртаючыся з Ерусаліма ў Назарэт пасля свята Пасхі, убачылі, што Яго няма разам з імі?
А) 10 ☐
Б) 12 ☐
В) 13 ☐

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Арфеева***

# У Ідолце разам з біскупам Алегам Буткевічам адзначылі парафіяльную ўрачыстасць

**16 ліпеня Касцёл адзначае ўспамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Гары Кармэль, якую традыцыйна называюць таксама Маці Божай Шкаплернай. Менавіта такі тытул мае парафія ў агрform гарадку Ідолта, дзе суботнім днём прайшла парафіяльная ўрачыстасць. Ганаровым госцем свята стаў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч.**

■ **Жанна Закрэўская,** *kascelmery.by*



Для Яго Эксцэленцыі ў гэты святочны дзень было наладжана шэраг мерапрыемстваў, якія былі прымеркаваныя да парафіяльнай урачыстасці. Разам з пробашчам ксяндзом Вячаславам Адамовічам іерарх зранку наведаў некалькі месц, дзе адбыліся адмысловыя набажэнствы. У вёсцы Дзедзіна ў прысутнасці мясцовых жыхароў і гасцей вёскі прайшло асвячэнне новага прыдарожнага крыжа. Ініцыятарам і фундатарам усталявання незвычайнага драўлянага крыжа ў выглядзе капліцкі стала сям'я Лапуцэвічаў і Барыс Вярковіч.

Па дарозе наведалі могілкі ля вёскі Дзедзіна, дзе пахаваныя бацькі грэка-каталіцкага біскупа Чэслава Сіповіча. Некалькі гадоў назад сюды прывезлі зямлю з магілы іерарха, якая знаходзіцца ў Лондане. Аддаючы даніну памяці, вернікі на чале з біскупам Алегам супольна памаліліся за памерлых, а айцец Дзмітрый Грышан з Віцебска здзейсніў малітву паводле грэка-каталіцкага абраду.

Далейшым прыпынкам стала вуліца Маладзёжная ў аграгарадку Ідолта, дзе на месцы старога драўлянага крыжа намаганнямі жыхароў вуліцы быў устаноўлены новы металічны крыж. Падчас асвячэння крыжа біскуп Алег Буткевіч заўважыў, што прыдарожны крыж — гэта не проста сімвал хрысціянства, але вызнанне нашай уласнай веры, даніна памяці тым, хто не для нас захаваў. Яго Эксцэленцыя падзякаваў прысутным за ўстанаўленне крыжа і супольную малітву.

Не паспела завяршыцца чарговая імпрэза, а ў капліцы на паўвыспе ўжо чакалі іерарха. Тут адбылося асвячэнне двух абразоў. Пачэснае месца ў галоўным алтары заняў абраз Маці Божай Балеснай, а на бакавой сцяне размясціўся абраз Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі — у гонар тытула капліцы. Зроблены і ўсталяваныя новыя абразы па ініцыятыве мецэнатаў: Пятра і Марыны Крупко з Санкт-Пецярбурга, людзей неабыякавых, якія бачаць і заўважаюць патрэбы святыні.

А 12 гадзіне распачалася святая Імша, якую ўзначаліў біскуп Віцебскі. У сваёй гаміліі, разважаючы над гісторыяй узнікнення свята і традыцыяй нашэння шкаплера, Яго Эксцэленцыя адзначыў: «Шкаплер — гэта частка манаскай вопраткі. Ён уяўляе сабой кавалак тканіны з выявамі абразоў Найсвяцейшай Маці Божай і Сэрца Езуса. <...> Побач з тым абяцаннем, якое дае Маці Божая за нашэнне шкаплера, ён выконвае яшчэ адну функцыю. Гэта знак, які прыпамінае нам яшчэ пра адну вопратку, якую кожны з нас калісьці атрымаў на святым хросце. Вопратку, пра якую нам кажа Святое Пісанне. Вопратку, у якой мы станем перад Езусам Хрыстом у вялікім натоўпе збаўленых. Гэта вопратка — нашыя ўчынкі, нашае сэрца».

Пасля Імшы адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і Эўхарыстычная працэсія вакол касцёла.

Кульмінацыяй урачыстасцяў стала асвячэнне крыжа каля святыні. Гэты крыж усталяваны на ахвяраванні парафіянаў у знак памяці аб тых, хто будаваў касцёл, хто захаваў і перадаў веру. Выканаў прыгожы металічны крыж майстар з вёскі Пад'ельцы Уладзімір Кукуць, дарэчы, ён таксама зрабіў крыж, які ўстанавілі на вуліцы Маладзёжнай.

Завяршылася ўрачыстасць, але вернікі не спяшаліся разыходзіцца. На свята сабралася шмат гасцей не толькі з суседніх парафій, але з Расіі і Латвіі. Нечаканыя сустрэчы, абмеркаванні, новыя планы і, вядома ж, надзея на тое, што Маці Божай Шкаплерная збярэ ўсіх на наступны год.

# Каляндар на жнівень

**1** жніўня – успамін св. Альфонса Марыі Лігуоры, біскупа і доктара Касцёла.

**2** жніўня – успамін св. Эўсэбія Вэрчэльскага, біскупа.

**4** жніўня – успамін св. Яна Марыі Віянэя, святара.

**5** жніўня – гадавіна пасвячэння Рымскай Базылікі Найсвяцейшай Панны Марыі.

**6** жніўня – свята Перамянення Пана.

**8** жніўня – успамін св. Дамініка, святара.

**9** жніўня – свята св. Тэрэзы Бэнэдыкты ад Крыжа (Эдыты Штайн), панны і мучаніцы, апякункі Еўропы.

**10** жніўня – свята святога Лаўрэнцыя, дыякана і мучаніка.

**11** жніўня – успамін св. Клары.

**12** жніўня – успамін св. Жанны Францысказы дэ Шанталь, законніцы.

**13** жніўня – успамін св. Пантыяна, Папы, і Гіпаліта, святара, мучанікаў.

**15** жніўня – урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

**16** жніўня – успамін св. Стэфана Венгерскага.

**19** жніўня – успамін св. Яна Эда, святара.

**20** жніўня – успамін св. Бэрнарда, абата і доктара Касцёла.

**22** жніўня – свята Найсвяцейшай Панны Марыі Браслаўскай, Валадаркі азёраў.

**23** жніўня – успамін св. Ружы Лімскай, панны.

**24** жніўня – свята св. Барталамея, апостала.

**25** жніўня – успамін св. Людвіка.

**27** жніўня – успамін св. Монікі.

**29** жніўня – успамін Мучаніцтва святога Яна Хрысціцеля.

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага апаратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

# Летняя школа касцельнага спеву пройдзе ў Браславе

**З 15 па 20 жніўня ў Браславе будзе праходзіць летняя школа касцельнага спеву, паведамляе waladarka.by. Мастацкі кіраўнік – Уладзімір Неўдах.**



**У праграме:**

- ***Пастаноўка голасу для харыстаў і кантараў.***
- ***Супольны харавы спеў.***
- ***Тэорыя і практыка касцельнага спеву.***
- ***Арганнае суправаджэнне.***

Літургічны курс прызначаны для людзей, якія жадаюць выконваць музычнае служэнне падчас цэлебрацыі святой Імшы. Ён будзе ўключаць заняткі з тлумачэннем сэнсу Літургіі ў цэлым, ходу і сэнсу святой Імшы, прынцыпаў правільнага падбору рэпертуару.

Прыняць удзел у тыдні касцельных мерапрыемстваў запрашаем усіх, каму падабаюцца касцельны спеў і музыка. Музычная адукацыя не абавязковая, узрост не абмежаваны.

**Рэгістрацыя ўдзельнікаў – 15 жніўня ад 15 гадзіны** *(будынак насупраць касцёла)*. Пачатак заняткаў – а 17 гадзіне.

Удзельнікі атрымаюць неабходны нотны матэрыял. Арганізатары забяспечваюць начлегі і харчаванне. Ахвяра – 50 рублёў.

**Нашы настаўнікі:**

✔**Літургіка** – кс. Юрый Жаўняровіч

✔**Арган** – Нэлія Баравік

✔**Вакал** – Вольга Янум

**Па пытаннях удзелу і запісу просім звяртацца не пазней за 6 жніўня: +37529 715-73-42** – *Іна Сапун*, agniinna@mail.ru

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9:**

1 – Б; 2 – Б; 3 – А; 4 – В; 5 – А; 6 – А; 7 – В; 8 – А; 9 – А; 10 – А


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** маясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2867

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 16.06.2022 г. у 14.40

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621





Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь